*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) № 48 (208) 30 лістапада 1994 г. Кошт — 40 рублёў

**«ВЫДАТНІКІ» Ў НАС ПА-РАНЕЙШАМУ — ЧЫНОЎНІКІ?**
Стар. 2.

**ДВА ПАРАДОКСЫ БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА.**
Стар. 3.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **18 ЛІСТАПАДА Ў ДОМЕ ЛІТАРАТАРА ПРАЙШЛО ПАСЯДЖЭННЕ РЭСПУБЛІКАНСКАЙ РАДЫ ТБМ ІМЯ Ф.СКАРЫНЫ**. На ім былі абмеркаваны два пытанні: «Аб дзяржаўнай моўнай палітыцы» і «Аб задачах у перыяд падрыхтоўкі да новых выбараў у вышэйшы заканадаўчы орган рэспублікі і мясцовыя органы ўлады». Справаздача з Рэспубліканскай Рады Таварыства будзе ў «Нашым слове» ў бліжэйшым нумары.

○ ***ВІЦЭ-ПРЭМ'ЕР КАБІНЕТА МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ВІКТАР ГАНЧАР АДКАЗАЎ*** *на пісьмы і тэлефонныя званкі чытачоў газеты «Звязда». Так, гаворачы пра сродкі масавай інфармацыі, ён адзначыў: «Пытанні аб далейшай дзейнасці сродкаў масавай інфармацыі абмяркоўваліся і ў прэзідэнцкай адміністрацыі, і ў Кабінеце Міністраў. Што датычыцца падтрымкі выданняў, асабліва беларускамоўных, то на наступны год у бюджэце рэспублікі прадугледжаны асобны артыкул на фінансаванне і падтрымку газет і часопісаў, дзіцячай літаратуры. Магу вам гарантаваць, што, нягледзячы на цяжкае становішча бюджэту, пытанне будзе вырашана, а аб'ёмы фінансавання СМІ — не зменшаны». Хочацца верыць, што ўсё будзе так.*

○ **СТАРШЫНЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ МЕЧЫСЛАЎ ГРЫБ НАВЕДАЎ** штаб-кватэру Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, дзе праходзіла 49-я сесія Генеральнай Асамблеі ААН. Паміж спадаром Грыбам і Старшынёй Генеральнай Асам блеі А.Эсі адбылася сустрэча, на якой абмяркоўваліся стан і перспектывы ўзаемадзеяння Беларусі і ААН, а таксама эканамічнае і палітычна е становішча нашай краіны.

○ ***РАБОЧАЯ ГРУПА КАБІНЕТА МІНІСТРАЎ*** *на чале з віцэ-прэм'ерам Міхаілам Мясніковічам вяла кансультацыі з урадам Расійскай Федэрацыі аб прынцыпах гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва нашых дзяржаў.*

○ **МІНІСТЭРСТВА ГАНДЛЮ ЗША АБ'ЯВІЛА** аб выдзяленні дзяржаўнай субсідыі ў памеры аднаго мільёна долараў адной з амерыканскіх фірм на будаўніцтва Амерыканскага бізнес-цэнтра ў Менску.

○ ***ІДЭЯ СТВАРЭННЯ Ў ВІЦЕБСКУ КОНСУЛЬСТВА ЛІТОЎСКАЙ РЭСПУБЛІКІ БЫЛА ВЫКАЗАНА*** *на сустрэчы старшыні Віцебскага аблвыканкама Уладзіміра Кулакова з Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Літвы ў Беларусі Віктарам Баўблісам.*

○ **ЦЭНТР ЭКАНАМІЧНАГА І САЦЫЯЛЬНА-ПАЛІТЫЧНАГА АНАЛІЗУ Ў РАМКАХ САЦЫЯЛАГІЧНАГА МАНІТОРЫНГУ**, які праводзіцца Беларускім інстытутам навукова-тэхнічнай інфармацыі і прагнозу, вызначыў рэйтынг папулярнасці беларускіх палітычных партый. Зноў, як перад выбарамі Прэзідэнта Беларусі, партыя камуністаў на першым месцы. За ёй ідзе БНФ.

*Сто дзён прэзідэнцтва*

# А ДЗЕ Ж ПРАВЫ БЕЛАРУСАЎ?

*Адкрытае пісьмо Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь сп. А.Р.Лукашэнку*

**Шаноўны Прэзідэнт!**

**У нашай дзяржаве зараз вядзецца карпатлівая і цяжкая праца вяртання Беларусі яе сапраўднага нацыянальнага аблічча. Адзін з накірункаў гэтай працы — культура і мова. Тысячы людзей на працягу апошніх амаль дзесяці год самаадданa, бескарысна і самаахвярна паклалі сваю працу, энергію і талент на алтар Бацькаўшчыны. Ёсць пэўныя станоўчыя вынікі — фактычна забароненая беларуская мова пачала гучаць на вуліцах, у транспарце, навучальных установах. Школа, па ўзору ўсяго свету, стала ператварацца ў нацыянальную. У гарадах, а не толькі на вёсцы, з'явіліся беларускамоўныя класы. Яшчэ не школа, а толькі класы! Цяжка, як па смале, пераадольваючы жорсткае супраціўленне свядомых і несвядомых ворагаў беларускасці, справа зрушылася. У адпаведнасці з Канстытуцыяй, Законам аб мове, Законам аб адукацыі стала пашырацца сфера ўжывання беларускай мовы.**

**Але нездарма адзін з вядомых дэпутатаў Вярхоўнага Савета аднойчы адзначыў, што дэпутат Лукашэнка можа нанесці беларускасці большую шкоду, чым увесь Вярхоўны Савет. На жаль, гэта аказалася праўдай, таму што ўжо зараз можна зрабіць нейкія высновы з Вашай заявы ў якасці Прэзідэнта ў галіне культурнага будаўніцтва. Маецца на ўвазе Ваша «канцэпцыя» дэрусіфікацыі, выказаная ў Менскім педуніверсітэце. Пасля Вашых тэмпераментных, скажам так, выказванняў людзі, што тонка рэагуюць на заўвагі начальства, сталі закрываць у школах класы, якія ўжо працавалі на беларускай мове. У дванаццаці віцебскіх школах, дзе не адзін год існуюць беларускамоўныя класы, у гэтым годзе не адкрыты першыя класы з беларускай мовай навучання. І адміністрацыя гэтых школ і бацькі вучняў спасылаюцца на выказванні Лукашэнкі, накіраваныя супраць «насильственной» дэрусіфікацыі беларускага жыцця.**

**Шаноўны Прэзідэнт! Два, а па сутнасці тры, пасляваенныя пакаленні беларусаў выхоўваліся не проста ў ідэалагізаванай прасторы, а і ў жорстка скіраваным напрамку да русіфікацыі. Не трэба вялікай мудрасці, каб зразумець, што сабой уяўлялі пастановы ЦК КПСС 1978 г. аб двухмоўі ці андропаўска-ціханаўская № 473 1983 г. «О дополнительных мерах по изучению русского языка...», калі не афіцыйна, а фактычна свядома беларускую мову загналі ў вёску, здратавалі, зняважылі, зрабілі аб'ектам здзекаў з мэтай прывіць да яе і да яе носьбітаў пагарду. Гэта на сабе адчуваеце і Вы, шаноўны Прэзідэнт.**

**Уздым грамадскага жыцця немагчымы без пачуцця годнасці, што дасягаецца адукацыяй і выхаваннем. Але годнасць беларусаў, якія ўзнімаюцца з каленяў, абвяшчаецца нацыяналізмам у тым вядомым сэнсе, які з'яўляецца жупелам усіх прыгнятальнікаў. Каб годнасць не была пыхай, выхаванне павінна быць нацыянальным у традыцыях беларускага менталітэту — павагі да лепшых якасцей усялякага народа і яго культуры. Такое выхаванне немагчыма без адной з галоўных нацыянальных адметнасцей народа — яго мовы. Але гэта не праяўленне таго нацыяналізму, на які ўвесь час скіроўваюць грамадскую думку апалагеты бальшавіцкай ідэалогіі (бо нацыяналізм — гэта рух за незалежнасць народа і дзяржавы супраць іншаземных прыгнятальнікаў, супраць каланіялізму). Нас выхавалі так, што не заўважаецца толькі рускі нацыяналізм, а па сутнасці шавінізм, які цяпер адкрыта і нахабна прапагандуецца на Беларусі Славянскім саборам, ЛДП, Саюзам афіцэраў разам з нейкімі казакамі і іншымі антыканстытуцыйнымі ўтварэннямі. Наадварот, уздымаецца лямант аб уціску правоў рускамоўных ці нават «рускіх беларусаў», дзяцей якіх «насільна прымушаюць» вучыцца ў беларускай нацыянальнай школе, і ні словам не абмаўляюцца аб правах народа, які зрабілі на працягу многіх дзесяцігоддзяў аб'ектам русіфікатарскіх эксперыментаў.**

**Шаноўны Прэзідэнт! Мэта нашага звароту не ў тым, каб пераканаць Вас у Вашых поглядах, а ў тым, каб давесці да Вашага ведама нашу думку пра тое, што Прэзідэнт незалежнай краіны павінен не толькі гарантаваць яе законы, як таго патрабуе Канстытуцыя, а быць і абачлівым у выказваннях, якія могуць прывесці да вялікіх непаразуменняў сярод вельмі значнай часткі народа.**

***Прынята на пасяджэнні Віцебскай гарадской рады Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны 3 лістапада 1994 года.***

***Старшыня гарадской рады ТБМ***
***В.АРЛОЎ.***

**1. У ЮГАСЛАВІІ ВЕДАЮЦЬ ПРА «НАША СЛОВА».**
**2. КАЛІ СКАЗАЦЬ ПРОСТА, ШТО З ПЕРАКЛАДАМ АДБЫВАЕЦЦА НЯДОБРАЕ, ГЭТА БУДЗЕ ЛАКІРОЎКАЙ САПРАЎДНАГА СТАНУ РЭЧАЎ.**
Стар. 7.

*АЛЕ!*

# *Каб не паўтарыць памылак продкаў*

У мяне ўзнікла некалькі пытанняў з нагоды публікацыі ў № 37 «Нашага слова» за г.г. артыкула пра новага міністра адукацыі і навукі. Увогуле, мне здаюцца незразумелымі тыя спадзяванні на Прэзідэнта і яго каманду, якія раз-пораз гучаць са старонак беларускамоўнай перыёдыкі, у тым ліку і «Нашага слова». Здаецца, наш Прэзідэнт ужо зрабіў дастаткова заяў, каб усе зразумелі яго сапраўднае стаўленне да беларушчыны. Не з'яўляюцца выключэннем і тыя людзі, якіх ён прызначыў кіраваць навукай, культурай, адукацыяй — усім тым, што складае духоўнае жыццё беларуса.

Але я не пра гэта. У вышэйзгаданым артыкуле сп.Стражаў гаворыць пра некаторыя артыкулы ў падручніках гісторыі, якія непажадана было б мець, і быццам бы такі падыход рэкамендуе Савет Еўропы, каб не пагаршаць сяброўства паміж народамі. Хацелася б папытаць у міністра, якія ж артыкулы Савет Еўропы раіць выкінуць, скажам, з гісторыі Францыі? Можа, пра Стогадовую вайну? Гэта ж, па логіцы сп.Стражава, распальвае варожасць паміж французамі і англічанамі. Зыходзячы з такіх меркаванняў, англійскія дзеці не павінны вывучаць нармандскае заваяванне, а італьянскія — не вывучаць гісторыю наогул, бо для Італіі ўся сярэднявечная гісторыя — гэта суцэльныя войны і ўварванні суседніх дзяржаў. Нават вайна за польскі трон вялася на тэрыторыі Італіі. Дык што, італьянцы цяпер будуць крыўдзіцца на ўвесь свет?

Не гісторыя проціпастаўляе розныя народы, а палітыкі, у тым ліку і на найвышэйшым узроўні, якія сваімі непрадуманымі заявамі падаграюць вялікадзяржаўны шавінізм, нацыянальную і расавую нецярпімасць сярод самых адсталых і неадукаваных, у тым ліку гістарычна, слаёў насельніцтва. Дык давайце ж вывучаць сваю гісторыю, каб не паўтараць памылак сваіх продкаў.

**А.ДРОЗД.**

г.Гомель.

*Жыццё Таварыства*

# Беларусы і сёння не маюць магчымасці атрымліваць адукацыю ў ВНУ на роднай мове

## ЗВАРОТ

***Рады Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны Савецкага раёна г.Менска да Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь***

**Рада ТБМ імя Ф.Скарыны Савецкага раёна г.Менска разгледзела на сваім пасяджэнні 4 лістапада 1994 г. сітуацыю і праблемы атрымання вышэйшай адукацыі на беларускай мове.**

**Рада вымушана адзначыць, што сёння беларусы па-ранейшаму не маюць магчымасці атрымліваць адукацыю ў ВНУ на роднай мове.**

**Тыя выкладчыкі, якія перайшлі на беларускую мову, часта працуюць у неспрыяльных умовах, сустракаюць супраціў і маральны ўціск з боку адміністрацыі і калег, як у былыя часы. У той час двухмоўнае выкладанне стварае цяжкасці для студэнтаў.**

**Сітуацыя, якая склалася, з'яўляецца вынікам неакрэсленай сучаснай дзяржаўнай палітыкі і незацікаўленасці дзяржаўных асоб у беларускай нацыянальнай школе. На жаль, вельмі часта складанасці ствараюцца чыноўнікамі-небеларусамі.**

**Рада вымушана таксама адзначыць, што немагчымасць атрымаць адукацыю на дзяржаўнай мове ёсць парушэнне Канстытуцыі і аднаго з асноўных правоў чалавека. Адбываецца фактычная дыскрымінацыя карэннага насельніцтва, якая падтрымліваецца вышэйшай дзяржаўнай асобай на Беларусі. Для апраўдання гэтай палітыкі робіцца падтасоўка сацыялагічных даследаванняў, фактаў гісторыі, шырока асвятляюцца акцыі вузкага кола рускіх шавіністаў, апрацоўваецца грамадская думка. На самым высокім дзяржаўным узроўні выцягнута на паверхню вынайдзеная рускімі шавіністамі тэза аб «таталітарызме» ў моўным пытанні з боку беларускіх культурных аб'яднанняў, у першую чаргу, трэба разумець, — Таварыства беларускай мовы. І гэта ў краіне, дзе рускай мове ніхто не пагражае!**

**Тым часам, ужо сёння ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі, бізнесу, рэкламе, адукацыі, сродках масавай інфармацыі, структурах улады адчуваецца недахоп адпаведных спецыялістаў, якія дасканала валодаюць беларускай мовай.**

**На сёння дзейнічаюць артыкулы 1-7, 11, 12, 21, 27-35 Закона аб мовах. З 1 верасня 1995 г. уводзяцца ў дзеянне артыкулы 8, 10, 11, 14, 21 (мова справаводства, тэхнічнай і праектнай дакументацыі, сферы абслугоўвання і дашкольнага выхавання). Можна меркаваць, што апошнія артыкулы найменш падрыхтаваныя за 4 гады, прайшоўшыя з дня пачатку ўвядзення Закона аб мовах.**

**Праз 6 гадоў усе артыкулы Закона ўступяць у сілу. Менавіта столькі часу патрэбна для падрыхтоўкі спецыялістаў у ВНУ. Узнікае натуральная патрэба перавесці ўсе першыя курсы ВНУ на беларускую мову навучання. На жаль, мы бачым адсутнасць дзяржаўнай палітыкі ў стварэнні нацыянальнай вышэйшай школы.**

**Нягледзячы на вялікія тэрміны, прадугледжаныя Законам аб мовах, увядзенне адпаведных артыкулаў адбываецца без дастатковай падрыхтоўкі, у выніку чаго многія артыкулы рэальна не працуюць. У гэтым таксама ёсць вялікая доля віны вышэйшай школы, якая да гэтага часу не дазваляе атрымліваць адпаведную адукацыю. Неабходна спыніць гэтую заганную практыку.**

**Трэба перастаць тлумачыць адсутнасць сістэмнай працы з боку Міністэрства адукацыі і навукі «аб'ектыўнымі абставінамі». Складваецца ўражанне, што высокія дзяржаўныя асобы робяць спробы замарудзіць працэс вяртання народу сваёй мовы.**

**Відавочна, існуе неабходнасць тэрмінова скласці планы пераводу ВНУ на беларускую мову навучання з канкрэтнымі тэрмінамі і адказнымі. Усё гэта павінна быць даведзена да ведама шырокай беларускай грамадскасці. Неабходна паскорыць выданне на беларускай мове падручнікаў, праграм, спецыяльных слоўнікаў, метадычных матэрыялаў. Лічым, што ёсць сэнс далучыць да гэтай працы і студэнтаў.**

**Рада ТБМ імя Ф.Скарыны Савецкага раёна г.Менска патрабуе:**

**— тэрмінова скласці планы пераводу ВНУ на беларускую мову навучання з канкрэтнымі тэрмінамі і канкрэтнымі адказнымі;**

**— перавесці 1-я курсы ВНУ на беларускую мову навучання з 1 верасня 1995 г.;**

**— згодна з артыкулам 5 Закона аб мовах асоб, якія займаюцца зняважай, ганьбаваннем дзяржаўнай мовы, ствараюць перашкоды і абмежаванні ў карыстанні беларускай мовай, варожа адносяцца да яе, — прыцягнуць да адказнасці. І гэта не будзе «таталітарызмам» у моўным пытанні. Беларусы будуць бараніць сваю мову і сваю годнасць самі, калі гэтага не будзе рабіць дзяржава;**

**— згодна з артыкулам 12 Закона аб мовах закончыць падрыхтоўку і ўвесці ў практыку правядзенне навуковых канферэнцый, пасяджэнняў і нарад у ВНУ на дзяржаўнай мове, спыніць дыскрымінацыю беларускамоўных навукоўцаў.**

**Рада ТБМ Савецкага раёна г.Менска звяртае ўвагу на тое, што марнаванне часу ў далейшым можа абвастрыць моўную сітуацыю і сапраўды стварыць напружанасць на нацыянальнай глебе.**

**Беларусы пакуль што спадзяюцца на дзейнае выкананне Закона аб мовах.**

**Старшыня Рады ТБМ імя Ф.Скарыны**
**Савецкага раёна г.Менска** **А.А.Трусаў.**
**4 лістапада 1994 г.**

---

*АЛЕ!*

Выдатнікамі народнай адукацыі палічылі: адну настаўніцу роднай мовы і літаратуры, дзвюх настаўніц рускай мовы і літаратуры, па адной адпаведна — матэматыкі, фізікі, хіміі, пачатковых класаў, ніводнага настаўніка фізкультуры ці выхавацеля дзіцячага садка, дырэктара школы ці яго намесніка. Затое ажно пяцёра(?!) старшынь райкамаў прафсаюза. Якой жа гэта матэматычнай прагрэсіяй можна вымераць колькасныя суадносіны ўзнагароджаных, калі з тысяч настаўнікаў матчынай мовы адзначана толькі адна — глыбокапаважаная і шаноўная настаўніца Дамачоўскай сярэдняй школы Брэсцкага раёна Вольга Андрэеўна Агурцова, а з 118 райкамаў прафсаюза — цэлая пяцёрка новых «выдатнікаў»?

# «Выдатнікі» ў нас па-ранейшаму — чыноўнікі?

***«Настаўніцкая газета» ад 5 кастрычніка бягучага года змясціла паведамленне прэс-цэнтра Міністэрства адукацыі і навукі «Узнагароды лепшым» аб узнагароджанні значком «Выдатнік адукацыі Рэспублікі Беларусь» «...групы настаўнікаў за плённую працу ў навучанні і выхаванні вучняў» напярэдадні Дня настаўніка. Пасля яго прачытання ёсць над чым задумацца.***

Захоўваю грэшным часам «Настаўніцкую газету» № 65 ад 13 жніўня 1966 года з тых даўнаватых «застойных» часоў, калі і мяне ўзнагародзілі значком выдатніка. Дык вось, у тым годзе да Дня настаўніка толькі па Брэсцкай вобласці былое Міністэрства народнай асветы адзначыла значком выдатніка 25 настаўнікаў, 4 дырэктараў школ і іх намеснікаў, 3 выхавацеляў дзіцячых садкоў і ні аднаго прафсаюзнага кіраўніка. Сёння ж у час дэмакратыі ўтульна пачувала сябе за тым «круглым сталом» пры ўручэнні ўзнагарод старшыня Рэспубліканскага камітэта прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі Т.Чобатава ў акружэнні пяцёркі новаспечаных прафсаюзных «выдатнікаў», калі гаварыла аб тых «...захадах, што былі зроблены і робяцца, каб аблегчыць жыццё педагогаў». Няўжо спадарыні Т.Чобатавай невядома, што сёння тыя ж райкамы прафсаюзаў не кантралююць сітуацыю паляпшэння матэрыяльнага становішча настаўніцтва і ад тых славесных «захадаў» ім ні холадна, ні горача (хутчэй, нават, холадна)? Дасведчаныя людзі канстатуюць:

...Большасць настаўнікаў знаходзіцца за рысай беднасці, ледзь-ледзь зводзіць канцы з канцамі.

...Не вырашана жыллёвая праблема гарадскога і сельскага настаўніка.

...Практычна адзін раз у жыцці настаўнік атрымлівае пуцёўку ў санаторый або дом адпачынку. Ён даведзены да крайнасці, сацыяльна не абаронены...

Ніхто не супраць, калі б старшынь райкамаў адзначылі як настаўнікаў-прадметнікаў (пэўна ж, яны вядуць урокі ў школах свайго раёна). Калі ж іх узнагародзілі толькі за тыя прафсаюзныя «захады»-дасягненні, то няхай вышэй названыя спадары і спадарыні тое-сёе ўспомняць:

— на якой мове яны размаўляюць са сваімі падначаленымі настаўнікамі: на дзяржаўнай беларускай ці на братняй расейскай, альбо на «трасянцы»?

— ці падзяліліся яны хоць калі сваімі «асабістымі» пуцёўкамі ў прэстыжныя санаторыі з тымі ж настаўнікамі, на штогоднія статысячныя і мільённыя адлічэнні-ўзносы ад жабрачай зарплаты якіх яны мадзеюць? Такія рытарычныя пытанні можна доўжыць і доўжыць. Перакананы, адказы на іх будуць на карысць свабоднага прафсаюза педагогаў.

І апошняе. На сёння значок «Выдатнік адукацыі Рэспублікі Беларусь» — прыгожая цацка, не больш, ніяк не падмацаваная матэрыяльна. У «інстанцыі» не раз дасылаліся прапановы ўпарадчыць гэта пытанне, але «воз так і не скрануўся з месца». На мой погляд, не трэба рабіць Заслужаным настаўнікам і выдатнікам адукацыі ніякіх даплат, а аўтаматычна (ці механічна) надаць ім вышэйшую атэстацыйную катэгорыю (незалежна, хто яе мае ці не). Гэта было б і лагічна, і справядліва. В.Стражаў не мог вырашыць гэта пытанне ў якасці намесніка міністра. Хочацца спадзявацца, што на цяперашняй пасадзе міністра адукацыі і навукі яму стане мудрасці і паўнамоцтваў станоўча вырашаць гэтае набалелае пытанне.

**Леанід РАМАНЕНКА,**
**настаўнік Рамельскай СШ,**
**выдатнік народнай асветы.**

P.S. Гэты допіс шаноўная газета хай лічыць не як палеміку з «Настаўніцкай газетай», а як звычайны роздум-разважанне настаўніка.

---

# ДАТЫ І ПАДЗЕІ Ў СНЕЖНІ

***3 снежня.*** *Сёлета спаўняецца 180 гадоў з дня нараджэння І.А.Пашкевіча (1814—1875), дыпламата, вучонага-мовазнаўца і натураліста, даследчыка Далёкага Усходу.*

***4 снежня.*** *35 гадоў з дня адкрыцця ў Менску Літаратурнага музея Якуба Коласа.*

***5 снежня.*** *Сёлета спаўняецца 175 гадоў з пачатку (1819) антыфеадальных хваляванняў сялян мястэчка Мальга Пружанскага павета (хваляванні скончыліся ў 1823 г.).*

***7 снежня.*** *Сёлета спаўняецца 170 гадоў з дня нараджэння Ю.Бакшанскага (1824—1863), беларускага публіцыста, удзельніка паўстання 1863 г.*

***8 снежня.*** *Сёлета спаўняецца 165 гадоў з дня нараджэння П.М.Звяждоўскага (снеж.1829—1864), аднаго з кіраўнікоў паўстання 1863—1864 гг. на Беларусі і ў Польшчы.*

*Сёлета спаўняецца 135 гадоў з часу выхаду (1859) першага перакладу на беларускую мову (пераклаў В.І.Дунін-Марцінкевіч) паэмы А.Міцкевіча «Пан Тадэвуш» (выданне паводле распараджэння цэнзуры спалена).*

***9 снежня.*** *Сёлета спаўняецца 120 гадоў з часу (1874) выхаду ў Пецярбургу зборніка І.І.Насовіча «Беларускія песні».*

***10 снежня.*** *420 гадоў з дня нараджэння М.Лянчыцкага (1574—1653), беларускага асветніка.*

*40 гадоў з дня адкрыцця Лепельскага краязнаўчага музея.*

***11 снежня.*** *Сёлета спаўняецца 120 гадоў з часу выхаду (1874) у Вільні на старабеларускай мове ў 2-х тамах «Пісцовай кнігі былога Пінскага староства, складзенай паводле загада караля Жыгімонта Аўгуста ў 1561—1566 гадах Пінскім і Кобрынскім старостаю Лаўрынам Войнаю».*

***13 снежня.*** *Сёлета спаўняецца 100 гадоў з часу выхаду (1894) зборніка паэзіі Ф.Багушэвіча «Смык беларускі».*

***14 снежня.*** *70 гадоў з дня выхаду (снежань 1924 г.) першага нумара дзіцячага часопіса «Беларускі піянер» (з кастрычніка 1929 г. — «Іскры Ільіча», з чэрвеня 1945 г. — «Бярозка»).*

***15 снежня.*** *475 гадоў з дня выдання (1519) у Празе Ф.Скарынам кнігі Бібліі «Суддзі».*

***16 снежня.*** *Сёлета спаўняецца 100 гадоў з часу выхаду (1894) у Гродне кнігі А.Я.Багдановіча «Пра паншчыну. Апавяданні з беларускага жыцця часоў прыгоннага права».*

***17 снежня.*** *Сёлета спаўняецца 90 гадоў з часу выдання (1904) у Пецярбургу «Кругам беларускай моладзі» лацінкаю «Каляднай пісанкі на 1904 год».*

*70 гадоў з дня ўтварэння трэста «Белдзяржкіно».*

***20 снежня.*** *Сёлета спаўняецца 85 гадоў з часу выхаду (1904) у Пецярбургу «Вегарніцаў» В.І.Дуніна-Марцінкевіча.*

***21 снежня.*** *60 гадоў з дня нараджэння І.Г.Чыгрынава, народнага пісьменніка Беларусі.*

***23 снежня.*** *Сёлета спаўняецца 80 гадоў з часу выдання (1914) у Вільні Беларускім выдавецкім Таварыствам лацінкаю «Кантычкі, або Сабрання набожных песень для ўжытку каталікоў-беларусаў».*

***24 снежня.*** *210 гадоў з дня нараджэння З.Я.Даленгі-Хадакоўскага (1784—1825), славяназнаўца, пачынальніка беларускай, польскай, рускай і ўкраінскай археалогіі, фалькларыстыкі, этнаграфіі і дыялекталогіі.*

***29 снежня.*** *110 гадоў з дня смерці В.І.Дуніна-Марцінкевіча (1808—1884), беларускага пісьменніка.*

***30 снежня.*** *Сёлета спаўняецца 80 гадоў з часу выдання (1914) Беларускім выдавецкім Таварыствам у Вільні зборніка апавяданняў Ядвігіна Ш. «Васількі».*

РЭХА

# Разумныя ўмеюць вучыцца

**Нам ужо даводзілася гаварыць пра газету «Европейское время», але, на жаль, у тым сэнсе, што яе рэдактары і аўтары, звяраючы свае гадзіннікі быццам бы па агульнаеўрапейскім часе, крочаць, не зводзячы вачэй з аднае Расіі ў эсэсэраўскай яе іпастасі. Таму і дэвіз выдання прачытваўся трохі па-іншаму, чымся тое адзначана ў шпігелі: вольны дух нашых новых еўрапейцаў усё больш чамусьці лунаў ва ўсходнім накірунку ці, можа, дакладней, — заклікаў ва ўсялякім разе гэтак рабіць Беларусь, пагардліва пасміхваючыся з быццам бы ізаляцыянісцкасці ды хутаранскасці яе «нацыянал-патрыётаў». Казалі мы пра тое са шкадаваннем, бо на старонках «Европейского времени» і тады друкаваліся не толькі акулавы.**

**Ды апошнім часам можна канстатаваць — палітычны вектар газеты прыкметна мяняецца. Аддаючы належнае Расіі і рамантызму «агульнаеўрапейскай прасторы», газета ўсё больш заўважае Беларусь — тое, што гэта незалежная дзяржава і не толькі валодае міжнародным правам, але і павінна аберагаць уласныя нацыянальныя інтарэсы дзеля дабрабыту свайго ж народа. У гэтым сэнсе звяртае на сябе ўвагу шэраг публікацый у свежым, 10-м нумары «ЕВ». Перш-наперш, канешне, гутарка з паслом Польшчы ў Беларусі пані Эльжбетаю Смулэк галоўнага рэдактара газеты Сямёна Букчына. У тэкстах пытанняў апошняга можна адзначыць такія выразы, якімі спадар галоўны рэдактар раней карыстацца пазбягаў: «у нас в Беларуси», «затрагиваются проблемы нашего национального (асабліва заўважым гэта! — Ул.Ас.) единства, сложнейшие территориальные вопросы» і т.п.**

**Адказы пані пасла Эльжбеты Смулэк цікавыя ўсе, але тут мы адзначым толькі фрагмент яе выказвання адносна стасункаў Беларусі з Польшчай ды Расіяй. «Польшча і Расія не кандыдаты ў жаніхі, — заўважыла пані пасол Эльжбета Смулэк, — а Беларусь не нявеста, а суверэнная дзяржава, якая з вялікай цяжкасцю будуе сваю дзяржаўную самастойнасць. Мая свабодалюбівая краіна ўвачавідкі падтрымлівае ў гэтым Рэспубліку Беларусь і палохаць чытачоў (гэта ў адказ на спасылку галоўнага рэдактара «ЕВ» на нейкія «односторонние высказывания в адрес Польши или в адрес России» ў беларускай прэсе. — Ул.Ас.) прыдуманымі «прэтэнзіямі» Польшчы адносна перагляду межаў няма ніякага сэнсу». «Самае галоўнае, па-мойму, — сказала далей пані пасол Польшчы, — з псіхалагічнага пункту гледжання, пастарацца зразумець памылкі мінулага, скінуць з сябе іх цяжар і пачаць думаць катэгорыямі сучаснасці і перспектывы. Глядзець у будучыню маладымі вачыма, з верай і актыўнасцю. Гэта будучыня ў многім залежыць ад нас, нашага ўзаемнага даверу і ўзаемна карыснага двухбаковага супрацоўніцтва ў многіх галінах эканомікі і культуры».**

**Што да мовы «ЕВ», то яна, вядома ж, не якое-небудзь эсперанта (а было б, далібог, натуральна і цікава!) і не беларуская. Пішуць у «ЕВ» матэрыялы (ці друкуюць) выключна, як дасціпна заўважыў адзін яе аўтар у адносінах да іншай, праўда, групы «таварышаў», усё на тым жа «родном партийном языке». Тым не менш і тут перамены ёсць. У настроях. Дазволім сабе пераказаць дыскусійныя матэрыялы, першы з якіх мае загаловак «Два парадокса белорусской словесности». Мусім адно дадаць, што ў дыскусіі з аўтарам гэтага артыкула ягоны апанент не заўважыў (ці не захацеў з гэтым разбірацца) аднаго даволі не толькі несправядлівага, але і канцэптуальнага пасажу адносна творчасці беларускіх пісьменнікаў. Апошніх можна ў многім папракаць, але ж чаго-чаго, а вось панавання прынцыпу самадастатковасці мастацтва ў беларускай літаратуры апошніх (ды і ўсіх іншых) дзесяцігоддзяў не наглядалася. Не для «іншых пісьменнікаў» рабілі пісьменнікі і не дзеля «вузкага кола інтэлектуалаў накшталт С.Шушкевіча», а з верою, што неяк усё ж дойдзе іх слова і да простага народа. І даходзіла. Не да ўсіх, вядома, але ж хаця б да школьнікаў, няхай сабе часцяком праз цытаты ў падручніках. Нездарма ж амаль кожны, хто вучыўся ў беларускай школе і не быў па вядомай шавіністычна-імперскай даведцы «освобожден» ад урокаў беларускай мовы і літаратуры, на ўсё жыццё запомніў хоць бы пачатковыя строфы выдатнай паэмы Якуба Коласа «Новая зямля». Атрымаўшы такім чынам пэўную прывіўку супраць злачыннага вірусу манкуртызму.**

**Ул.Ас.**

*Аляксандр ЧАРНІЦКІ*

# Два парадоксы беларускага пісьменства

Згадаем два апошнія прынцыпы постмадэрнізму: мастаку дазволена ўсё; мастацтва самадастаткова. Менавіта прынцып самадастатковасці мастацтва правіў баль у беларускай літаратуры на працягу апошніх дзесяцігоддзяў: пісьменнікі пісалі для пісьменнікаў і вельмі вузкага кола інтэлектуалаў кшталту С.Шушкевіча. У выніку паланізацыі і русіфікацыі, а таксама войнаў і міграцыйных хваль беларускую мову (універсальная славянская мова, якая адкрывае яе знаўцам вольны доступ да іншых славянскіх моў; не выпадкова беларускія інтэлігенты звычайна валодаюць і польскай) напаткаў лёс французскай мовы ў Сенегале, дзе дзяржаўнай мовай (французскай) валодаюць толькі дзесяць працэнтаў жыхароў.

Новыя часы дазволілі рэалізавацца ў беларускай літаратуры і прынцыпу эстэтычнай (і, вядома, ідэалагічнай) уседазволенасці, што прывяло рэспубліку да сітуацыі чыстага постмадэрну — незалежна ад прыналежнасці пэўных аўтараў да афіцыйнага СП ці «андэграўнднаму» Таварыству Вольных Літаратараў. І ў гэтым мы бачым палавіну апраўдання для загалоўка.

Беларусь знаходзіцца амаль у геаметрычным цэнтры Еўропы і пры атрыманні незалежнасці мела, адпаведна, багаты выбар шляхоў развіцця: польскага, прыбалтыйскага, расійскага на горшы канец. Даспадобы прыйшоўся цудоўны ўзорчык, украінскі.

Зараз ужо нескладана зрабіць выснову: рэформы ідуць там, дзе іх ажыццяўленне не давяралася старым камуністычным элітам. (Вяртанне да ўлады камуністаў у Літве і Польшчы нічога па сутнасці не мяняе, бо рухавік запушчаны без іх удзелу і працуе надзейна.) У палякаў для адлучэння ПАРП ад дзяржаўных і эканамічных рычагоў была «Салідарнасць». У Літве — «Саюдзіс» плюс літоўская мова. У нацыянальна неаднародных Латвіі і Эстоніі меліся толькі два радыкальныя сродкі: законы аб грамадзянстве і дзяржаўнай мове, якія бліскуча справіліся з ролямі закона аб люстрацыі.

Каб адабраць уладу ў савецкіх камуністаў, недастаткова перамогі над імі на выбарах; іх неабходна выцясніць з усіх органаў кіравання — ад свечачнага заводзіка да буйнога муніцыпалітэта (мэрыі, прэфектуры, выканкама, калі пажадаеце). У Латвіі гэту работу часова выканала латышская мова; у Эстоніі — эстонская. З перавагай у гаспадарчых і іншых вярхах рускамоўнай пракамуністычнай публікі было скончана, бо нават камуністам, якія мелі сярод сваіх правадыроў паліглота Леніна і мовазнаўцу Сталіна, было не пад сілу ў масавым парадку за кароткі тэрмін дасканала засвоіць мову, вельмі непадобную на родную, — як таго патрабуе кіраўнічая работа. Сабатаваць і дыскрэдытаваць рэформы няма каму.

Варта сказаць, што і нацыянальна неаднародная Беларусь, следам за Балтыйскімі краінамі, надала дзяржаўны статус мове карэннага насельніцтва. Прычым зрабіў гэта Вярхоўны Савет, абраны па сутнасці ў застойныя гады. Баяцца не было чаго: беларуская мова прынцыпова адрозніваецца ад мовы балтыйскіх суседзяў, яна вельмі падобна да рускай. Пражыўшы ў рэспубліцы некалькі гадоў і не прыкладаючы ніякіх спецыяльных намаганняў да вывучэння мовы, зможаце яе зразумець. А гэта азначае, што ў вашай прысутнасці падпольшчыкі-антыкамуністы не стануць дамаўляцца аб чарговым мітынгу, ведаючы, што хоць вы і не ў стане правільна сказаць нават слова па-беларуску, але тым не менш усё зразумееце і настукаеце куды трэба.

Такая ж самая бяда на Украіне. А колькі праспявана дыфірамбаў «роднай мове»! Гэта, сапраўды, прыгожая мова — асабліва калі вы чуеце не калянае вымаўленне дыктараў, а гутарку, скажам, пісьменнікаў Уладзіміра Арлова з Навумам Гальпяровічам... Такім чынам, другі парадокс: любімая родная мова па-здрадніцку нагадвае нялюбую чужую. Беларусь па-ранейшаму, спатыкаючыся, цягнецца па каляіне. Як жараба, прывязанае да раздзеўбаных імперскіх драбін.

Адно ў гэтай сітуацыі чыстага постмадэрна добра. Дваім больш складана дамовіцца збіць трэцяга, калі той разумее іх мову. Няведанне трэцім мовы дваіх часта з'яўляецца адпраўной кропкай для нацыянальнага ўціску. Таму, магчыма, у Латвіі і Эстоніі нацыянальны ўціск ёсць, а на Беларусі яго няма.

*Віктар МУДРОЎ*

# Вывучайце албанскую, панове!

Артыкул А.Чарніцкага, у якім па-майстэрску спалучаны такія розныя, здавалася б, рэчы, як сучасны постмадэрнізм, эканамічныя рэформы і нацыянальнае пытанне, канстатуе ісціну: без дэкамунізацыі і дэкаланізацыі ніякі прагрэс на Беларусі немагчымы. Як немагчымы ён і ў іншых посткамуністычных краінах, дзе ва ўладзе знаходзіцца ўсё тая ж старая, даволі тупаватая і палахлівая, але звыш меры зладзеяватая наменклатурная публіка.

Пра тое, што дэкамунізм з'яўляецца перадумовай паспяховай рэалізацыі рэформ, гаворыць вопыт шэрага былых саюзных рэспублік (краіны Балтыі) і шэрага краін Усходняга блоку — Польшчы, Чэхіі, Албаніі.

Так, так, менавіта Албаніі. У гэтай у нядаўнім мінулым звышбальшавізаванай, адрэзанай ад усяго свету краіне тэмпы эканамічнага росту сёння самыя высокія ў Еўропе. Паводле леташніх вынікаў, яны складалі 11 працэнтаў, экспарт албанскай прадукцыі за год вырас больш чым на 50 працэнтаў, сур'ёзна ўмацавалася нацыянальная валюта — лей і, нарэшце, у дзверы албанскай эканомікі год таму вясёлым гуртам завіталі замежныя інвестары і вядучыя заходнія фірмы.

Гэтыя поспехі дасягнуты дзякуючы палітыцы рэформ, што ажыццяўляецца ў Албаніі, якой папярэднічала поўная дэкамунізацыя краіны. Уся старая наменклатурная гвардыя была адразу вымецена з дзяржустаноў. Функцыянеры найвышэйшага рангу, што раней кіравалі краінай, былі пасаджаны ў турмы за крадзеж і карупцыю. Была таксама ліквідавана бюракратычная піраміда ў кіраванні і знішчана сістэма палітычнага вышуку.

Сёння ў краіне горных арлоў ужо няма так званых сельгаскааператываў — уся зямля перададзена сялянам. Поўным ходам ідзе прыватызацыя і лозунг сённяшняга дня ў Албаніі — словы яе прэзідэнта Салі Берыша: «Прыватызуем усё, што можна, бо дзяржуласнасць — мёртвы капітал».

З афіцыйным візітам Салі Берыша наведаў Лондан. Гэты былы дысідэнт (і кардыёлаг па прафесіі) выклікаў сапраўдны фурор сярод журналістаў і палітыкаў, калі на прэс-канферэнцыі бегла адказваў на самыя каверзныя пытанні на трох еўрапейскіх мовах. Як тут не згадаць кіруючых беларускіх таварышаў, многія з якіх не ў стане лагічна падаць уласныя думкі на «роднай партыйнай» мове?

І, калі ўжо гаворка зайшла аб мовах, дазволім сабе крыху не пагадзіцца з высновай А.Чарніцкага аб уціску рускамоўных у краінах Балтыі. На наш погляд, «калі трэці не разумее мовы першых двух», то ў гэтым выпадку «трэцяму» неабходна гэту мову вывучаць і тады пытанне «уціску» будзе знята ў парадку дня.

І яшчэ пра лінгвістыку. Аўтар гэтых радкоў год назад узяўся за вывучэнне албанскай мовы. І калі раней ставіў перад сабой «абстрактныя» мэты (больш глыбокае вывучэнне культуры старажытнага народа Еўропы), то цяпер згаданыя мэты набылі каштоўнасць больш утылітарную і прагматычную. Хто ведае — гадоў праз пяць-шэсць — аўтару, магчыма, надарыцца выпадак выехаць на заробкі на албанскую Рыўеру... Суседнюю Польшчу нашы батракі ўжо асвоілі. А чаму б не асвоіць Балканы, тым больш, што клімат там больш мяккі за польскі, а тутэйшы народ, як нідзе, душэўны і лагодны.

Канферэнцыі

# Абавязак перад Айчынай выконваў шчыра, сумленна

***Нядаўна ў Інстытуце мовазнаўства Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь адбылася навуковая канферэнцыя, прымеркаваная да 110-годдзя з дня нараджэння выдатнага мовазнаўца, таленавітага пісьменніка, публіцыста і вядомага ў мінулым грамадскага дзеяча Язэпа Лёсіка (1864—1940).***

Пасяджэнне адкрыў дырэктар Інстытута, прафесар Аляксандр Падлужны. Падкрэсліўшы вялікія заслугі юбіляра перад Бацькаўшчынай, вучоны адзначыў, што асабліва шмат зрабіў Лёсік у галіне распрацоўкі беларускай нацыянальнай навуковай тэрміналогіі і развіцці літаратурнай мовы, што менавіта ён яшчэ ў 20-я гады заснаваў той напрамак, які зараз называецца «культура мовы».

На канферэнцыі былі заслуханы пяць навуковых дакладаў, прысвечаных жыццёваму і творчаму шляху Лёсіка, усебаковаму аналізу яго шматграннай багатай і надзвычай каштоўнай філалагічнай спадчыны. Першым выступіў журналіст Анатоль Мяснікоў — аўтар вядомай дакументальнай кнігі «Нацдэмы», адной з галоўных дзеючых асоб якой з'яўляецца Лёсік. «Наша слова» (№ 43, 26 кастрычніка г.г.) ужо друкавала артыкул І.Германовіча «З кагорты пачынальнікаў», дзе даволі падрабязна асветлены цярністы шлях гэтага слаўнага сына Беларусі, яго важкі ўклад у скарбонку айчыннага мовазнаўства. Таму спынімся толькі на асобных фрагментах з выступленняў А.Мяснікова і іншых дакладчыкаў. Прамоўца, у прыватнасці, засяродзіў увагу на тым, што гадоў пяць-шэсць назад імя Лёсіка ў нас па-ранейшаму нідзе не згадвалася. Гэта тлумачыцца найперш тым, што сённяшні юбіляр у 1918—1919 гадах кіраваў Сакратарыятам Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР) — дзяржавы, сапраўдная існасць якой яшчэ зусім нядаўна трафарэтна ацэньвалася адназначна адмоўна. Але гістарычныя факты пераканаўча сведчаць: лідэры БНР былі выразнікамі сапраўдных, глыбінных нацыянальных інтарэсаў беларусаў. І няма іх віны ў тым, што БНР не стала прыкметнай з'явай агульнаеўрапейскай гісторыі, хоць уся палітыка ўрада гэтай дзяржавы ў неймаверна складаных і неспрыяльных умовах цалкам падпарадкоўвалася дасягненню святой мэты — бачыць свой родны край вольным і незалежным.

Сярод важных мерапрыемстваў, ажыццёўленых пры самым актыўным удзеле Я.Лёсіка, А.Мяснікоў назваў і прызнанне Радай БНР летам 1918 года беларускай мовы ў якасці адзінай дзяржаўнай. Дакладчык заўважыў таксама, што з сярэдзіны 1919 года Я.Лёсік фактычна зусім адышоў ад палітычнай дзейнасці, сканцэнтраваўшыся на навуковых мовазнаўчых даследаваннях, на творчай працы, дзе ён за кароткі час дасягнуў выдатных поспехаў. У дакладзе адзначалася, што, на жаль, сталіншчына не дазволіла як след расквітнець таленту гэтага вернага сына Айчыны. У ліпені 1930 года Я.Лёсік быў бязвінна арыштаваны, праз дзесяць гадоў яго не стала. Зараз нават невядома, дзе ён пахаваны. І хоць цяпер выдатны мовазнавец рэабілітаваны (чэрвень 1988г.), адноўлены ў званні акадэміка (травень 1990 г.), але яго імя пакуль яшчэ не вернута Бацькаўшчыне. Таму прамоўца лічыць неабходным апаратыўна выдаць творчую спадчыну Я.Лёсіка.

Навуковая дзейнасць юбіляра ў галіне беларускай лінгвістыкі аналізавалася ў дакладзе кандыдата філалагічных навук Івана Германовіча (БДУ). Вучоны сканцэнтраваўся ў асноўным на тым, што галоўным дасягненнем Я.Лёсіка ў згаданым накірунку з'явілася яго імкненне перавесці ўсю беларускую граматыку (у тым ліку, вядома, і правапіс) на фанетычны прынцып, каб максімальна наблізіць літаратурную і афіцыйную мову да гучання мовы жывой, народнай.

Самым, бадай, цікавым і змястоўным аказаўся даклад «Мастацкія і літаратурна-крытычныя творы Я.Лёсіка» дацэнта Тамары Тарасавай (Менскі педагагічны універсітэт), выслуханы з вялікай увагай. Аўтар, у прыватнасці, падкрэсліла, што Я.Лёсік — публіцыст, празаік і крытык — заўжды заставаўся творцам тонкага эстэтычнага густу, які перш-наперш прызнаваў высокую самацэннасць чалавечай асобы. Яна падтрымала прапанову аб выданні спадчыны Лёсіка.

Навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН Сцяпан Акушэвіч выступіў з дакладам «Паказанні Язэпа Лёсіка на допытах». Як растлумачыў прамоўца, актуальнасць згаданай тэмы перш за ўсё абумоўлена тым, што нядаўна доктар гістарычных навук Р.Платонаў у пяці нумарах газеты «Рэспубліка» апублікаваў вытрымкі са следчай справы Я.Лёсіка пад рубрыкай «Гісторыя без купюр». Але зрабіў Р.Платонаў гэта вельмі аднабакова, без належнай крытыкі дакументальных матэрыялаў следства, без уліку таго, што «добраахвотныя прызнанні» падследнага літаральна выбіваліся катамі з НКУС, што здабываліся яны жудаснымі сродкамі фізічнага і псіхалагічнага ўздзеяння на вязня. Апошні, як сведчаць матэрыялы справы (дагэтуль зберагаецца ў архівах КДБ), не зважаючы ні на што, трымаўся мужна да канца, нікога з сябрў міфічнай антысавецкай арганізацыі — Саюза вызвалення Беларусі (СВБ) — не назваў, хоць пад жорсткім, нечалавечым прымусам прызнаў «віну» ўласнага ўдзелу ў СВБ. С.Акушэвіч адказаў на пытанні прысутных.

Галоўныя высновы дакладаў на канферэнцыі грунтоўна падсумаваў дырэктар Інстытута літаратуры АН, акадэмік Віктар Каваленка. Ён таксама пагадзіўся з тым, што наспела пара выдаць творчую спадчыну Язэпа Лёсіка, каб вярнуць яго імя Бацькаўшчыне, бо гэты патрыёт Беларусі свой святы абавязак перад сваім народам выконваў шчыра, сумленна.

**Наш карэспандэнт.**

У.А.ПАЛУЯН

# БЕЛАРУСЫ: ЖЫЦЦЁ Ў СКЛАДЗЕ ПОЛЬШЧЫ

## (Заходняя Беларусь у 1921—1939 гг.)

*(Заканчэнне. Пачатак у № 45-47.)*

5 кастрычніка 1939 г. часовая ўправа г.Беластока звярнулася да ўсіх часовых упраў краю з прапановай склікаць Народны сход Заходняй Беларусі для вырашэння пытанняў дзяржаўнага ладу. Створаны з прадстаўнікоў часовых упраў адпаведны камітэт прыняў «Парадак арганізацыі выбараў Народнага сходу Заходняй Беларусі», у якім абвяшчаліся ўсеагульныя, роўныя, прамыя выбары пры тайным галасаванні. Права вылучэння кандыдатаў мелі часовыя ўправы, сялянскія камітэты, сходы рабочых прадпрыемстваў, рабочай гвардыі, інтэлігенцыі.

На перадвыбарных сходах рабочыя і сяляне давалі сваім кандыдатам наказы, у якіх патрабавалі ўстанаўлення ў Заходняй Беларусі савецкай улады, з'яднання з БССР, уваходжання ў склад Савецкага Саюза. Выбары прайшлі 22 кастрычніка 1939 г. Прадстаўнікі Чырвонай арміі не ўмешваліся ў правядзенне выбараў.

Народны сход Заходняй Беларусі адбыўся 28-30 кастрычніка 1939 г. у г.Беластоку. 29 кастрычніка Народны сход прыняў Дэкларацыю аб дзяржаўнай уладзе, дзе абвяшчалася ўстанаўленне савецкай улады ў Заходняй Беларусі. У той жа дзень Народны сход прыняў Дэкларацыю аб уваходжанні Заходняй Беларусі ў састаў Беларускай ССР.

30 кастрычніка Народны сход прыняў Дэкларацыю аб канфіскацыі памешчыцкіх зямель, а ў ёй абвяшчалася канфіскацыя без выкупу памешчыцкіх зямель, зямель манастыроў і буйных чыноўнікаў з усім інвентаром і сядзібнымі пабудовамі. Затым была прынята Дэкларацыя аб нацыяналізацыі банкаў і буйной прамысловасці.

2 лістапада 1939 г. нечарговая V сесія Вярхоўнага Савета СССР першага склікання, выслухаўшы заяву паўнамоцнай камісіі Народнага сходу Заходняй Беларусі, вырашыла: задаволіць просьбу Народнага сходу Заходняй Беларусі аб уключэнні Заходняй Беларусі ў склад Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік з уз'яднаннем яе з Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікай.

Уз'яднанне Заходняй Беларусі ў адзінай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы было актам гістарычнай справядлівасці. Яно паклала канец падзелу Беларусі, аднавіла яе тэрытарыяльную цэласнасць. Уз'яднанне паскорыла кансалідацыю беларускага народа ў адзіную нацыю.

У канцы 1939 г. у заходніх абласцях пачаўся новы этап сацыяльна-эканамічных пераўтварэнняў. Было ўведзена савецкае адміністрацыйна-тэрытарыяльнае дзяленне: вобласці, раёны, сельсаветы. Створаны 5 абласцей — Баранавіцкая, Беластоцкая, Брэсцкая, Віленская, Пінская і 101 раён. 24 сакавіка 1940 г. адбыліся першыя выбары ў Вярхоўны Савет СССР і Вярхоўны Савет БССР.

У народнай гаспадарцы ў канцы 1939—1940 гг. галоўнае месца заняла рэканструкцыя прамысловасці. Наладжвалася вытворчасць на нацыяналізаваных фабрыках і заводах, разгортвалася новае будаўніцтва. У канцы 1940 г. у заходніх абласцях дзейнічалі 392 прамысловыя прадпрыемствы, на якіх было занята каля 20 тыс.чалавек. Аб'ём прадукцыі павялічыўся амаль у 2 разы ў параўнанні з 1938 г. і склаў 27,6 працэнта вытворчасці рэспублікі. Праводзілася аб'яднанне рамеснікаў на аснове прамысловай кааперацыі. Да чэрвеня 1941 г. большасць з іх была кааперавана. Але гэта паспешлівасць нярэдка спалучалася з парушэннем добраахвотнасці. Стварэнне сістэмы дзяржаўнага і кааператыўнага гандлю рэзка звузіла сферу прыватнага ўласніка. Аднак закрыццё дробнага рознічнага гандлю адмоўна адбілася на абслугоўванні насельніцтва.

Рэканструкцыя і будаўніцтва новых прадпрыемстваў дазволілі значна павялічыць занятасць рабочых. 22 тыс.чалавек былі накіраваны на фабрыкі і заводы Менска, Магілёва, Віцебска, Оршы, Гомеля і іншых гарадоў. У выніку да 1941 г. з беспрацоўем практычна было скончана. Сялянам адназначна, амаль прымусова прапанавалася калектыўнае вядзенне гаспадаркі. Да чэрвеня 1941 г. было арганізавана 1115 калгасаў, якія аб'ядноўвалі 49 тыс., або 6 працэнтаў сялянскіх гаспадарак. Іх абслугоўвала створаная за кароткі час 101 машынна-трактарная станцыя з 997 трактарамі і іншымі машынамі. У адносінах да заможнага і багатага сялянства (так званага кулацтва) праводзілася палітыка абмежавання шляхам павышэння падаткаў, забароны арэнды і найму рабочай сілы.

У 1940 годзе ў заходніх абласцях разгарнулася культурнае будаўніцтва. Сістэма народнай асветы перабудоўвалася на ўзор савецкай. У большасці школ навучанне было пераведзена на беларускую мову. Адкрываліся новыя школы, у 1940/1941 навучальным годзе тут дзейнічала 5958 агульнаадукацыйных школ, у тым ліку 20 сярэдніх, у якіх навучаліся 774,5 тыс.дзяцей. У школы пайшло больш за 100 тыс.дзяцей, якія раней не маглі вучыцца. Усяго праз год пасля ўз'яднання ў заходніх абласцях практычна было ажыццёўлена ўсеагульнае абавязковае навучанне ў аб'ёме пачатковай школы. Хутка пашырылася сямігадовае навучанне. Пачалася работа па ліквідацыі непісьменнасці.

Гаспадарчае і культурнае будаўніцтва патрабавала кадраў спецыялістаў, якіх тут было мала. У канцы 1939-1940 гг. з усходніх абласцей сюды была накіравана вялікая колькасць спецыялістаў розных прафесій. Яны адыгралі важную ролю ў арганізацыі эканамічнага і культурнага жыцця. У заходніх абласцях былі адкрыты педагагічны, 4 настаўніцкія інстытуты і 25 сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў. Ажывала культурнае жыццё. У 1940 г. пачаў працаваць польскі дзяржаўны тэатр БССР у Беластоку, беларускія абласныя драматычныя тэатры ў Баранавічах і Пінску, рускі драматычны тэатр у Брэсце, яўрэйскі драматычны тэатр, тэатр мініяцюры, аддзяленне Беларускай дзяржаўнай філармоніі ў Беластоку. Адкрываліся новыя бібліятэкі, кінатэатры. Уздым перажывала народная творчасць.

**(Матэрыял скарочаны, тэкст да друку падрыхтаваў Мар'ян ВІЖ.)**

Застаецца дадаць ад рэдакцыі, што аўтар згаданага раздзела чамусьці глуха замоўчвае тыя негатыўныя з'явы, якія «вызваленне» 17 верасня прынесла на заходнебеларускія землі: гвалтоўнае ўсталяванне тут усяго савецкага, тэрор супраць нацыянальна-свядомай інтэлігенцыі, шырокія рэпрэсіі супраць сялян, якія не жадалі калгасаў, і інш. Тым, хто жадае больш падрабязна даведацца аб падзеях гэтага «вызвалення», нагадаем, што «Наша слова» нядаўна ўжо друкавала адпаведны матэрыял (гл. № 31, 21 верасня).

*ЗГАДКІ*

# «ТАДЭВУШ РЭЙТАН, СЫН ГЭТАЙ ЗЯМЛІ»

***У апошнюю кастрычніцкую суботу каля Грушаўкі, былога родавага маёнтка Рэйтанаў, урачыста адкрыты мемарыяльны знак у гонар Тадэвуша Рэйтана, нацыянальнага героя Беларусі і Польшчы.***

Дзень быў пахмурны, накрапваў дожджык. Але людзей прыйшло шмат. Чакаючы гасцей, яны сталі на ўскрайку лесу, на дарозе з Ляхавіч у Пашкоўцы, абсаджанай яшчэ "за панам" клёнамі і каштанамі, цяпер ужо, мабыць, стогадовымі. Да капліцы, дзе мелася быць урачыстасць, адсюль яшчэ пару соцень метраў, ды менавіта тут ляхавіцкае начальства задумала сустрэць гасцей. Пашкоўскія і грушаўскія жанчыны і мужчыны сталі купкамі, абмяркоўвалі розныя падзеі, вясковыя і палітычныя, згадвалі і пра Рэйтанаў, пераважна пра апошняга з роду — Юзафа, якога добра ведалі іх бацькі і дзяды.

Я даўно ўжо пераканаўся, што людская памяць захоўвае згадкі пра шмат якія падзеі. І пашкаўчане, нашчадкі былых Рэйтанавых прыгонных, не былі выключэннем. Не аднаму мне распавядалі дзед ды баба пра ўладальнікаў сядзібы ў Грушаўцы, куды пасля вайны мы хадзілі ў кіно, а пазней і на танцы. На прыгожым палацавым паркеце вельмі лёгка танцавалася, а ў такт «вальчыка» можна было ўдосталь кружыцца — зала была прасторная.

Пра Рэйтанаў згадвалі рознае. Хтосьці з гэтага славутага роду завёў лубін, і з таго часу на пясчаных пашкоўскіх палетках стала добра радзіць жыта. У маёнтку трымалі мядзведзяў, Мішу і Машу, якія аднойчы ўцяклі з клеткі ды нарабілі пераполаху і шкоды ў Пашкоўцах. Пасля гэтага ў палацы з'явіліся мядзведжыя чучалы.

Успаміналі і пра «таго» Рэйтана, што некалі сябе загубіў. Самагубца быццам пахавалі дзесьці ў Грушаўцы. Праўда, прафесар Анатоль Грыцкевіч лічыць, што Рэйтана пахавалі ў Ляхавіцкім фарным касцёле, рэшткі якога цяпер схаваны пад асфальтам.

Месца пахавання і цяпер невядома, хаця перад вайной сюды, у Грушаўку, прыязджала спецыяльная экспедыцыя. З таго часу ўсе, хто піша пра Тадэвуша Рэйтана, паўтараюць словы «пад грабам» — у гэтым урочышчы паблізу маёнтка нібы быў пахаваны будучы нацыянальны герой.

Пазней Юзаф, апошні з роду Рэйтанаў, вельмі паважаны ў наваколлі чалавек, пабудаваў на ўзлеску, здаля ад сядзібы, невялікую мураваную капліцу, у склепе пад якой склаў рэшткі продкаў. Мяркуюць, што там знайшоў сабе апошні прытулак і Тадэвуш Рэйтан. Прытулак, але не спакой. Недзе ў пачатку 70-х гадоў невядомыя злачынцы разбілі скляпенне ў капліцы. Людзі кажуць, што шукалі золата. Адну з трун у бляшаным саркафагу чамусьці вынеслі ў лес, дзе і паламалі. Праз некалькі дзён, даведаўшыся пра кашчунства, мы з сябрамі паехалі ў Пашкоўцы, пазбіралі косці — чэрапа не знайшлі, — рэшткі труны ды занеслі ў капліцу, дзе ў склепе засыпалі іх друзам...

...На дарозе заблісказа мігаўка міліцыйнай машыны.

Дзяўчаты ў псеўдабеларускіх строях ужо трымаюць на ручніку вялізны каравай. І вось расчыняюцца дзверы легкавікоў, аўтобусаў. Госці гуртам ідуць да іх. Наперадзе пані Альжбета Смулэк, пасол Польшчы ў Беларусі. З ёю — некалькі элегантна апранутых мужчын — паслы польскага сейму, сенатары, прадстаўнікі грамадскіх таварыстваў з Польшчы. Дзяўчаты падаюць пані Смулэк хлеб-соль, яна па-беларуску дзякуе... Пасля знаёмства госці і прадстаўнікі ляхавіцкіх улад пешшу, па гразкай дарозе ўскрайкам лесу пайшлі да капліцы.

І вось з-за дрэў выхіліўся спічасты фасад капліцы, пабудаванай у стылі псеўдаготыкі.

Дожджык прыспешваў. Госці і вяскоўцы сталі паўколам каля закрытага яшчэ памятнага знака ў куце цвінтара. З даручэння прысутных пані пасол Альжбета Смулэк здымае покрыва — на невялікім валуне «ляжыць» круглы медаль, да якога замест істужкі прымацаваны ланцуг. Пачынае спяваць хор, і ксёндз з Ляхавіч асвячае знак.

Выступалі госці, гаварылі пра заслугі Тадэвуша Рэйтана, зычылі, каб нашы народы спатыкаліся не ў трагічных абставінах, а пры будове ўласнай будучыні...

А я ўсё глядзеў на ланцуг, прыпамінаў...

Рэйтан, пасол ад Навагарадскага ваяводства на Варшаўскі сейм 1772 года, які павінен быў "зацвердзіць" першы падзел Рэчы Паспалітай, найперш выконваў рашэнне Навагарадскага сойміка: ні ў якім выпадку не пагаджацца на падзел. Яму і самому было зразумела, што падрыхтавана здрада, накіраваная супраць незалежнасці ВКЛ. Можна толькі здзіўляцца ягонай мужнасці і вытрымцы — ён пратэставаў супраць намеру ўсяго сейма. Таму, відаць, і не хапіўся за шаблю, а толькі словам спрабаваў прымусіць здраднікаў адумацца. Ды дарэмна: за Тадэвушам Рэйтанам пайшлі толькі паслы Самойла Корсак з Навагардчыны і два суайчыннікі — Тадэвуш Валадковіч ды Станіслаў Багушэвіч-Мінкоўскі — з Менскага ваяводства.

З розных крыніц вядома, што Тадэвуша Рэйтана прывезлі ў Грушаўку браты, бо ён у Варшаве страціў розум. Кажуць, што яго пасля трымалі ў сутарэнні старой грушаўскай камяніцы, можа нават закутага ў ланцугі. Але ж вядома, што ён развітаўся з жыццём, перарэзаўшы сабе вены — то, відаць, быў вольным.

Калі скончылася ўрачыстасць, я падышоў да «памятнай табліцы». На тым «медалі» — зверху па-беларуску, а ўнізе па-польску — літыя словы: «Тадэвуш Рэйтан, сын гэтай зямлі, нарадзіўся 20 жніўня 1742 года ў Грушаўцы і тут памёр 8 жніўня 1780 года. У якасці навагрудскага пасла ў Варшаўскім Сейме ў 1773 годзе пратэставаў супраць першага разбору Рэчы Паспалітай Польшчы. Праследаваны за гэты ўчынак, за няшчасце Айчыны заплаціў здароўем, а затым і жыццём. Быў прыкладам патрыятызму для многіх пакаленняў палякаў. Гонар яго памяці».

У той дзень не хацелася бачыць памылку на гэтай дошцы: чаму дзяржаву, якую яшчэ называюць Рэччу Паспалітай абодвух народаў, тут назвалі інакш? Але ж трэба будаваць новую будучыню, будаваць поруч з суседзямі. Дык, відаць, трэба пачынаць з выпраўлення памылак.

**З.СІЦЬКО.**

*Мікалай КРЫЎКО*

## СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

**ПАЎСТА́ЦЬ** (узняцца на адкрытую барацьбу супроць пануючых класаў для абароны нацыянальных інтарэсаў) *За шчасце, за волю, за край родны гэты – Ну хто не паўстане, спытай?* (Колас). *Перапоўніліся, як рэчка ў навальніцу, крыўдамі і пакутамі сэрцы людзей, і яны паўсталі, каб знішчыць няволю і здзек* (Казека), **УЗНЯ́ЦЦА** *Ужо ў пачатку паэтычнай дзейнасці Купала стварыў велічны вобраз беларускага народа, які ўзняўся на барацьбу за сваё нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне* (Ярош). *У гэтай гераічнай барацьбе добра паказана інтэрнацыянальная дружба працоўных, якія ўзняліся супроць сваіх прыгнятальнікаў* (Есакоў), **ПАДНЯ́ЦЦА** *[Грышка:] І мы на паноў падняліся нанова. Ды сілы ў нас мала было* (Танк). *Усе рабочыя, сяляне падняліся на паўстанне і далі панам вяльможным больш, чым вытрываць ім можна* (Дубоўка), **УЗБУНТАВА́ЦЦА** неадабральнае (пра стыхійнае, неарганізаванае выступленне) *[Андрэй Каржакевіч:] У Кранштаце, чуваць, матросы ўзбунтаваліся. Сіла вялікая. Караблі і гарматы ўсе захапілі* (Крапіва). *Калі крашынцы ўзбунтаваліся супроць ненавіснага пана, Паўлюк пайшоў разам з імі* («Звязда»), **УЗБУРЫ́ЦЦА** неадабр. *Народ узбурыўся супроць прыгнятальнікаў.* – *Незакончанае трыванне:* **Паўстава́ць, узніма́цца і ўздыма́цца, паднiма́цца і падыма́цца, узбунто́ўвацца, бунтава́ць, бунтава́цца, узбу́рвацца.**

**ПАЎТО́РНЫ** (які робіцца, адбываецца другі раз) *Рашчэня нямала пастараўся і праявіў вынаходлівасці, каб правесці камісію міма трактара, які заставаўся для паўторнага рамонту* (Шамякін). *Галавач звярнуўся ў выдавецтва з просьбай, каб яму далі кнігу Хадыкі на паўторную рэдакцыю* (Хведаровіч), **ДРУГАРАЗО́ВЫ** *Другаразовы напамін. Другаразовае замужжа.*

**ПА́ФАС** (пачуццё запалу, прыўзнятасці) *Вейс адчуваў, як знікае ўвесь пафас, увесь уздым, з якім гаварыў ён сваю прамову* (Лынькоў). *Гаварыў Мілоўскі прыўзнята, з пафасам, і з пафасам скончыў сваю прамову* (Галавач), **ПАТЭ́ТЫКА** кніжнае *Народнасць адчування жыцця – вось вызначальная стыхія стылю «Новай зямлі» [Я.Коласа], дзе пачуцці, эмоцыі падаюцца ў складанай гаме, дзе смех суседнічае са смуткам, патэтыка з афарбаванымі элегічнасцю радкамі* (Навуменка). *Вершы напаўняліся і паэтыкай услаўлення подзвігаў, і вастрынёй перажыванняў за незваротныя страты, і сумам над магіламі паўшых, і суровай стрыманасцю пачуццяў сыноў і дачок, што абавязаны подзвігу бацькоў* (Лойка).

**ПАХ** (уласцівасць рэчываў дзейнічаць на нюх і ўспрымацца ім) *[Маша] з прыемнасцю ўдыхала вільготны пах узаранай зямлі* (Шамякін). *У нос ударыў густы пах лякарстваў* (Новікаў). *Ёсць боль затоенай тугі У кволым паху звялых кветак* (Жылка), **ВО́ДАР** *А ў сне яна бачыла, што дым, з водарам сухога ядлоўцу, ахінуў-агарнуў яе з усіх бакоў* (Дубоўка). *Халаднаваты ветрык, налятаючы хвалямі, прыносіў з сабой то пах абмалочанай збажыны, то тонкі водар даспяваючых у калгасным садзе позніх антонавак, то вільготную свежасць атавы з прырэчных лугоў* (Хадкевіч), **ДУХ** размоўнае *[Капусту] засыплюць соллю з чорным кмінам і зоркамі чырвонай смачнай морквы, Там-сям антонаўку для духу кінуць* (Караткевіч). *[Клопікаў] старанна выпрасаваў свае лепшыя ўборы і, каб перабіць моцны нафталінавы дух ад іх, спляжыў на сурдут цэлую бутэлечку адэкалону* (Лынькоў). *[Анісім Маркавіч:] – А то зайшоў я ў адну хату... Печанымі яблыкамі пахне, як у вас... Я паздароўкаўся, пасядзеў крыху, нанюхаўся гэтага яблычнага духу* (Кулакоўскі).

**ПАХАВА́ЛЬНЫ** (звязаны з пахаваннем – цырымоніяй хавання нябожчыка) *Пахавальная працэсія.. паспешна, нібы ўсведамляючы сваю недарэчнасць на гэты момант, з дужа парадзелым хвастом рушыла да магілак* (Мехаў). *Ціха напяваючы пахавальны марш, байцы падымаюць нябожчыка* (Глебка), **ЖАЛО́БНЫ** (звязаны з абрадам пахавання, з выказваннем смутку, жалобы па нябожчыку) *Стогн жалобнага марша ўварваўся ў белую палату, і Крайчанка наважыўся ўзняцца з ложка* (Мікуліч). *Палітвязні збіліся на двары ў кучку і пачалі жалобны мітынг, Алесь Са́лагуб пачаў чытаць свой верш, прысвечаны смерці вязняў* (Машара). *Ці захаваліся тыя жалобныя паведамленні з вайсковых часцей, трэба будзе пашукаць...* (Марціновіч).

**ПАХАЛАДЗЕ́ЦЬ** (пад уздзеяннем страху, жаху і пад. прыйсці ў стан унутранага змярцвення, анямення) *Васіль ад неспадзеўкі аж пахаладзеў: больш за ўсё не хацеў, баяўся сустрэцца з Грыбком, і на табе – твар у твар!(Мележ). Пасько зірнуў і пахаладзеў ад жаху. Праз мутны пластык на яго глядзелі.. жывыя вочы* (Шыцік), **ПАМЯРЦВЕ́ЦЬ** узмацняльнае *[Наталля] ўскрыкнула, памярцвела, страціла прытомнасць* (Скрыган). *Ліпа глядзела на яе [Аксінню], атарапеўшы, і не разумела, ды раптам злавіла позірк, які тая кінула на дзіця, і раптам уцяміла і ўся памярцвела* (Шахавец), **АМЯРЦВЕ́ЦЬ** узмацн. *А што, калі, не дай божа, гэта Сцяпан? Яна [Волька] аж амярцвела* (Скрыган), **АБМЯРЦВЕ́ЦЬ** узмацн. *Нарэшце ён [Паліводскі] як абмярцвеў, і вочы быццам ашкляпелі. Ён падсеў да стала і глядзеў на крыж, на якім мільгацелі нават у сваёй нерухомасці камені* (Чорны). – *Незак.:* **Халадзе́ць, мярцве́ць.** – *Параўнайце*: 2 – 3. **Замерці.**

**ПАХВА́ЛЬНЫ** (які змяшчае пахвалу, адабрэнне) *Пахвальныя словы пачулі мы і пра заатэхніка Антона Каляду* (Бялевіч). *Уладзімір сказаў пра мяне самыя пахвальныя словы, і жанчына крыху засмуцілася* (Кавалёў). *[Новікаў:] – На жаль, і ў мяне яе [прынцыповасці] не хапае. Часам бачыш, што лобам сценкі не праб'еш. – Пахвальная самакрытыка, – адказаў Рыгор* (Арабей), **УХВА́ЛЬНЫ** разм. *Твар Ткачова, як і заўжды, быў строгі, нават крыху непрыветны, а словы – шчырыя, дужа добрыя, ухвальныя* (Савіцкі). *Тады ж да прадстаўніка цэнтра падышоў стары качагар Ціхон і пад ухвальныя воклічы ўсёй залы пацалаваўся з ім* (Барашка), **ХВАЛЕ́БНЫ** прыўзнятае, узмацн. *У «Чырвоны бор» часта наведваліся работнікі раённай газеты. Яны звычайна заходзілі да старшыні, гутарылі з ім, запісвалі з яго слоў тое, што ім трэба было, і пісалі хвалебныя артыкулы* (Сабаленка). *Пасля хору хвалебных рэцэнзій узнялася хваля крытыкі і разносаў* («Маладосць»). *За гадзіну да прамоў хвалебных, Покуль не пачаўся страў парад, Уключыць бы нам такі патрэбны, Самы электронны апарат* (Панчанка).

*Леанід БУРАК,*
*заслужаны работнік народнай адукацыі Беларусі,*
*доктар філалагічных навук, прафесар*

**УДАКЛАДНІМ**

# Знакі прыпынку ў складаназалежных сказах

## с) Складаназалежныя сказы з некалькімі дадзенымі часткамі

1. Калі кожная з даданых частак у аднолькавай ступені адносіцца да галоўнай часткі складаназалежнага сказа, то ўсе яны аддзяляюцца пры дапамозе коскі: *Хацеў бы, каб доля ў хатцы жыла, каб з бурлівай рэчкай нядоля сплыла* (Янка Купала). *Не згасала ніколі надзея, што і асенняя ноч развіднее, зоймецца ўдосвітку дзень залаты* (П.Глебка).

**Заўвага.** Калі даданыя часткі звязаны адзіночнымі злучнікамі **і, ці, або**, то паміж гэтымі часткамі коска не ставіцца: *Як толькі змаўкаюць за брамай гудкі і ночка маўчыць за акном, я зноўку выходжу глядзець на блакіт, на зоры далёкія зноў* (А.Куляшоў). *Ён ніколі не скардзіўся, што ў яго ныюць ногі ці ломіць паясніцу* (Змітрок Бядуля). *Я люблю пазіраць туды, дзе шумяць каласамі шырокія нівы або рассцілаюцца бясконцыя зялёныя лугі* (Якуб Колас).

2. Калі даданыя часткі складаназалежнага сказа маюць надзвычай развітую будову (іншы раз са сваімі знакамі прыпынку), то паміж імі ставіцца кропка з коскай; пры гэтым галоўная частка звычайна аддзяляецца ад такіх даданых частак пры дапамозе коскі: *Я не знаю месяца больш за май шчаслівага, калі пушчы цешацца з гоману шумлівага; калі вербы ніцыя рвуцца ўвысь галінамі; калі скрозь пшаніцаю пахне над далінамі...* (П.Глебка). *Пушча – гэта плямёны асілкаў-дубоў, што сышліся на вечныя сходкі дуброў; што шумяць нам з вячыстай сваёй вышыні пра мінулыя дні, пра наступныя дні; што маглі б скласці нам з назіранняў сваіх кнігу ўласную аб пакаленнях людскіх* (А.Куляшоў).

Кропка з коскай можа ставіцца таксама паміж асобнымі групамі даданых частак, калі гэтыя групы інтанацыйна адчленены адна ад другой: *Многа слаўненькіх куточкаў ёсць у нашым краі, дзе пад гоман ручаёчкаў, пад шум дрэў у гаі рой журботных дум пакінеш; дзе няма трывогі, дзе душою адпачынеш, змучаны з дарогі; дзе прыемны ветрык млее, збажыну калыша; дзе пакоем-згодай вее, дзе ўсё шчасцем дыша* (Якуб Колас).

3. Даданыя часткі, якія размешчаны перад галоўнай часткай і суправаджаюцца ўзмоцненай інтанацыяй, могуць аддзяляцца пры дапамозе працяжніка: *Дзе нага не ступала і дзёран буяў – каласіцца шырокая ніва* (М.Хведаровіч). *Як драмалі палі, засыпаў небасвод – я спаткаўся з чароўнай дзяўчынай* (П.Трус). *Хоць даўно развіднелася і ўзышло сонца – на полі нікога не відаць* (А.Стаховіч). *Дзе праеду я, дзе прайду – там прыхільнікаў незлічона* (П.Панчанка).

Пры большай паўзе і лагічна падкрэсленым распадзе складаназалежнага сказа на дзве часткі можа ставіцца коска з працяжнікам (даданыя ж часткі аддзяляюцца адна ад другой знакамі прыпынку на аснове агульнага правіла): *Дзе раслі ў пустэлях травы, слаўся дзікі мох, – там расце ў вялікіх справах радасць перамог!* (А.Куляшоў). *Калі над гаем у апошняй песні вершалін краса вяргіняй адцвітае ды смутак сочыцца ўдалі; калі лісцё пасцеле долу ўзор марознага акна, – тады ў раздум'і невясёлым гайдала голлямі сасна* (П.Трус).

*(Працяг будзе.)*

***ЖЫВОЕ СЛОВА***

# Малімончык наш Тадэўка

Ехаў гэта, значыцца, аўтобусам і раптам пачуў словы: *«Эх ты, малімончык!»* і дружны рогат. Гэтак пагардліва сказала дзяўчына хлопцу, што стаяў побач.

Дзівы дзівосныя! Калісьці гэтае слова я нярэдка чуў у Ашмянах, дзе выхоўваўся ў школе-інтэрнаце. Тады гэтая мянушка *малімон, малімончык* — мяне зацікавіла, але пазней неяк забылася. Дома я пачаў шукаць гэтае слова ў даведніках, слоўніках, каб аднавіць яго сэнс, незразумелы цяпер, і параўнаць: а як тлумачаць малімон навуковыя выданні, але нічога не знайшоў. Разгадка з'явілася мне ў сне... Мне ўспомніўся Францішак Багушэвіч...

У 1962 годзе ў горадзе Ашмяны быў ліквідаваны краязнаўчы музея яго імя, а экспанаты перадалі ў школу-інтэрнат. Дырэктар Васіль Рыгоравіч Наумаў прызначыў мяне апекавацца імі. З таго часу і адчуваю шчырую, нязгасную любоў да гэтага паэта — абаронцы праўды.

Раніцай разгарнуў кнігу «Францішак Багушэвіч. Творы» (выдавецтва «Мастацкая літаратура», 1991) і на старонцы 108 знайшоў верш:

*Малімончык наш Тадэўка*
*Год, на пацеры місцюк:*
*Як пачуе, дзе ёсць дзеўка,*
*Дык улезе, як пацук.*
*А махлюе, а прыкіда!*
*Мыслі яго — не паняць!*
*Жыдоў гане, а за жыда*
*Такіх дзесяць можна б даць.*
*Як ён моліцца, то грэша;*
*Як смяецца — плачуць*
*людзі.*
*Як пабожыцца, то брэша;*
*Як салодкі — кепска будзе!..*
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

З верша добра бачна значэнне слова *малімончык*. А вось як яно тлумачыцца ў каментары да твораў у гэтай кнізе: гэта той, хто маніць, крывіць, непаслядоўны. Вось чаму з хлопца рагаталі ў аўтобусе. Мянушка *малімон* — звычайная на Ашмяншчыне, Смаргоншчыне.

А быў Багушэвічаў верш «Малімончык наш Тадэўка...» «прысвечаны» віленскаму юрысту Т.Урублеўскаму.

**Міхась МАЛІНОЎСКІ,**
**праўдзейны член**
**Геаграфічнага таварыства.**
г.Баранавічы.

# З марымонцкай мукі́...

На жаль, спадар Маліноўскі не меў, відаць, магчымасці прагледзець усе беларускія слоўнікі. Прыкладам, у этымалагічным ён знайшоў бы, што слова *малімонік (малімончык, малімонічак, малімуон)* азначае: 'пястун, распешчаны', 'ахвочы да ласункаў, прысмакаў', 'чалавек, які карыстаецца прывілеямі і злоўжывае імі'. Там жа напісана, што *малімончык* паходзіць ад польскага malimónczyk, marymontczyk 'вучань колішняй сельскагаспадарчай і лясной школы ў мястэчку Марымонт каля Варшавы', дзе быў і ўзорны млын, які малоў муку высокага гатунку. Адсюль пазней значэнне: 'печыва-далікатэс з марымонцкай мукі' > 'ласунак' > 'той, хто есць ласункі, далікатэсы' > 'паніч, беларучка, пястун'. Такое тлумачэнне паходжання слова заснавана на меркаванні Яўхіма Карскага.

І ў «Слоўніку беларускай мовы» І.І.Насовіча мы знаходзім некалькі падобных слоў. Перш *малімонікі* з значэннем 'ласункі для дзяцей'. *Ты толькі малімонікі любіш.* За тым — *малімонік* 'ахвочы да смачнай стравы'. *Які ты малімонік! Хлеба аднаго не хочаш есці. Маліманіць* — песціць, уяўляючы некага маленькім. *Матка мяне не малімоніла, не змалімоніла; я змалку да ўсяго прывык.* Там жа яшчэ бачым *малімоніцца, малімонічаць, малімонічак* ды *малімонка* з двума значэннямі: 1) жанчына прывярэдлівая, пераборлівая ў ядзе. *Паненка — малімонка, нашага хлеба не возьме есці.* 2) Манерная, задавака. *Малімонка гэтая з намі і гаварыць не хоча.*

«Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча» падае *малімонка* 'пястуха'. *У іх Соня — малімонка, нічога па дому не робя. Сядзіць і загарая* (вёска Заазер'е Вілейскага раёна), а таксама *малімонтка* 'какетка'. *Тут малімонтка такая была* (в.Валынцы Верхнядзвінскага раёна). Ведаюць *малімонку* ў вёсцы Манякова (картатэка слоўніка Дзісеншчыны М.Крыўко) і на Лагойшчыне («Краёвы слоўнік Лагойшчыны» Варлыгі). Гэтае слова ўпадабаў і Міхась Зарэцкі. У яго рамане «Вязьмо» можна прачытаць: *«Пацяроб быў наскрозь чалавек адміністрацыйны і не любіў малімоніцца... Ты ж цяпер у сваёй хаце поўная гаспадыня... Тут ужо малімоніцца няма чаго, гэта табе не з мужыком».*

**З.С.**

*КАЛАСАВІНЫ-94*

# Урок коласазнаўства




Традыцыйнымі сталі літаратурныя святы Каласавіны, якія праводзіць Літаратурны музей Якуба Коласа. Сёлетняе, дзесятае было прысвечана 35-годдзю адкрыцця музея народнага песняра. З гэтай нагоды была арганізавана навуковая канферэнцыя (яна адбылася 4 лістапада), у якой прынялі ўдзел вучоныя Інстытутаў АН Беларусі, ВНУ рэспублікі. Дырэктар музея З.М.Камароўская ва ўступным слове расказала аб мерапрыемствах, прысвечаных гэтай даце. Мушынскі М.І., доктар філалагічных навук, член-карэспандэнт АН Беларусі (Менск), прысвяціў сваё выступленне тэме: «Спадчына Якуба Коласа як мастацкая цэласнасць». А.А.Майсейчык, кандыдат філалагічных навук, прафесар (Брэст), так сфармуляваў тэму свайго выступлення: «Ідэі беларускага Адраджэння ў лірыцы Якуба Коласа 1917-1922 гадоў». М.М.Грынчык, доктар філалагічных навук, прафесар (Менск), выступіў з дакладам «У вэлюме вызваленчых ідэй». «Радзімыя мясціны нараджэння і жыцця Якуба Коласа – старажытнаславянская зямля» – такую тэму абраў для свайго выступлення доктар гістарычных навук, прафесар Л.Д.Побаль (Менск). «Дзве ментальнасці аднаго архетыпу» – так акрэсліў сваю тэму даследавання кандыдат філалагічных навук Ул.І.Мархель (Менск). В.Я.Ляшук, кандыдат філалагічных навук, прафесар (Брэст), сваё даследаванне прысвяціла такому аспекту: «Рэгіянальны палескі каларыт у трылогіі Якуба Коласа «На ростанях». Педагагічны аспект праблемы мелі выступленні А.Х.Рычагова, кандыдата педагагічных навук (Менск), «Якуб Колас і ўсебаковае развіццё кожнай асобы», Г.М.Дашкевіч, кандыдата філалагічных навук (Мазыр), «Духоўны воблік дзіцяці ў паэме Якуба Коласа «Новая зямля» і Л.В.Мельнікавай, кандыдата філалагічных навук (Мазыр), «Эстэтычнае выхаванне школьнікаў пры вывучэнні твораў Якуба Коласа». Я.І.Клімуць, кандыдат філалагічных навук з Магілёва, тэму свайго выступлення абазначыў так: «Пошукі формы», а М.В.Няхай (Менск) – «Трылогія «На ростанях» у кантэксце развіцця беларускага гістарычнага рамана». А.Сувалава, выкладчык з Гомельскага універсітэта, раскрыла тэму «Выяўленне нацыянальнага быцця ў творах Якуба Коласа і Кузьмы Чорнага». Ж.С.Шаладонава, аспірантка (Менск), акцэнтавала ўвагу на такім аспекце: «Вырашэнне праблемы «зямля–селянін» у паэме Якуба Коласа «Новая зямля» ў кантэксце часу». Мовазнаўчае пытанне паэмы Якуба Коласа «Новая зямля» раскрыў старшы выкладчык Ул.Ул.Барысюк (Брэст): «Батанічная лексіка ў паэме Якуба Коласа «Новая зямля». «Якуб Колас у Сёмкаве. 1922 год» – выступленне старшага навуковага супрацоўніка музея Якуба Коласа В.Д.Міцкевіч, а Л.П.Мірачыцкі, кандыдат гістарычных навук (Менск), свой даклад прысвяціў тэме: «Тыднёвік «Крыніца» – папулярызатар творчасці Якуба Коласа ў Старым і Новым свеце 1917–1940 гг.»

У канферэнцыі прынялі ўдзел 4 дактары навук, 6 прафесараў, 17 чалавек, якія маюць вучоныя ступені кандыдата навук. Разам з вядомымі даследчыкамі спадчыны народнага песняра пачынаюць распрацоўваць асобныя аспекты маладыя руплівцы на навуковай ніве. Цікавасць да канферэнцыі праявіла група студэнтаў філфака БДУ (кіраўнік В.В.Казлова), Менскага педагагічнага вучылішча № 1 (кіраўнік Ж.Н.Прыймак). Прынялі ўдзел у рабоце канферэнцыі народны пісьменнік Беларусі акадэмік АН Беларусі І.П.Шамякін, дырэктар Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН Беларусі В.А.Каваленка.

Пажадана, каб удзельнікамі будучых канферэнцый было больш выкладчыкаў роднай мовы, літаратуры, гісторыі. Падобныя канферэнцыі – своеасаблівы ўрок па коласазнаўству. Наспела неабходнасць выдаць зборнік лепшых дакладаў удзельнікаў мінулых канферэнцый.

**Мікалай МАЦЮХ.**

*БЕЛАРУСКАЯ МОВА — МОВА НАВУКІ*

# Назовы хімічных элементаў

*Яраслаў МІЛЯШКЕВІЧ,*
*кандыдат хімічных навук,*
*Зміцер САНЬКО,*
*кандыдат біялагічных навук,*
*Аляксей ГЛУШКО*

*(Заканчэнне.)*

ДРУГАЯ ГРУПА. Гэтая група аб'ядноўвае назовы звыш 90 хімічных элементаў, што ўтвораныя ад поўнай лацінскай формы або шляхам захавання лацінскай асновы без канцавых фармантаў.

Паводле метаду ўтварэння можна вылучыць наступныя тыпы назоваў хімічных элементаў:

1) утвораныя ад поўнай лацінскай формы: аргон (18), крыптон (36), ксэнон (54), нэон (10), радон (85). Да гэтых пяці можна дадаць назовы сямі элементаў першай групы, якія маюць таксама традыцыйныя адпаведнікі;

2) якія ўтвораны ад лацінскай асновы на літару «л» і захоўваюць мяккасць гэтай літары: бэркель (97), бэрыль (4), галь (31), гель (2), каль (19), нікель (28), набэль (102), таль (81), танталь (73), туль (69);

3) якія ўтвораны ад лацінскай асновы на літару «н» і ў напісанні перадаюцца цвёрда: алюмін (13), актын (89), гадалін (64), гафн (72), герман (32), каліфорн (98), лянтан (57), малібдэн (42), манган (25), нэптун (93), палён (84), плютон (94), плятын (78), пратактын (91), рутэн (44), рэн (75), сэлен (34), тытан (22), уран (92), цыркон (40), эйнштэйн (99);

4) якія ўтвораны ад лацінскай асновы з фармантамі -tium і -cium і захоўваюць у беларускім найменні адпаведную літару, што пісьмова перадаецца адпаведна літарай «т» або «ц»: а) астат (85), лютэт (71), прамэт (61), тэхнэт (43), стронт (38); б) амерыц (95), кальц (20), ляўрэнц (103), франц (87);

5) якія ўтвораны ад лацінскай асновы на літару «д» і «з» і ў напісанні перадаюцца цвёрда: а) ванад (23), ёд (53), інд (49), ірыд (77), паляд (46), рад (88), род (45), рубід (37), сканд (21); б) дыспроз (66), магнэз (12), цэз (55);

6) назовы элементаў з парадкавымі нумарамі звыш 100, якія ў адпаведнасці з правіламі IUPAC створаны ад лацінскіх лічэбнікаў, захоўваюць поўную лацінскую аснову: унілквад (104), уніпэнт (105), унілгекс (106), унілсэпт (107), унілокт (108). Назовы элементаў 101, 102, 103 не з'яўляюцца агульнапрынятымі і ў адпаведнасці з IUPAC для іх выкарыстоўваюцца часовыя найменні: мэндэлёў, набэль, ляўрэнц.

Назовы ўсіх астатніх элементаў без канцавых лацінскіх фармантаў: бар (56), бор (5), бром (35), бісмут (83), вальфрам (74), гольм (67), ітэрб (70), ітр (39), кадм (48), кобальт (27), кюр (96), літ (3), натр (11), ніоб (41), нэадым (60), осм (65), фосфар (15), фэрм (100), флюор (9), хлёр (17), хром (24), цэр (58), цынк (30), эрб (68), эўроп (63).

Аднаскладовыя назовы элементаў са збегам зычных на канцы могуць гучаць невыразна, таму пры маўленні ў адпаведнасці з беларускай арфаэпіяй пажадана выкарыстоўваць устаўны гук «а», у выніку чаго тэрміны набываюць большую выразнасць: гаф(а)н, іт(а)р, кад(а)м, нат(а)р, ос(а)м, тэр(а)б, фэр(а)м, эр(а)б. Ужыванне ўстаўной літары на пісьме непажадана, бо гэта можа прывесці да слабапазнавальнай формы наймення як у пісьмовым выглядзе, так і пры вымаўленні.

*БЕЛАРУСКАЯ ЛАЦІНКА*

# Транслітарацыя, але якая?

Сваім артыкулам я б хацела прадоўжыць развагі, сумненні і прапановы пра тое, які шлях лепей выбраць, каб беларускі пашпарт, перш за ўсё, выглядаў беларускім, а, па-другое, каб наша прозвішча і імя магла больш-менш правільна прачытаць англамоўная асоба.

З трох існуючых спосабаў перадачы іншамоўных уласных назваў (пераклад, фанетычная транскрыпцыя і транслітарацыя) пры перадачы з англійскай мовы на беларускую часцей карыстаюцца фанетычнай транскрыпцыяй. І хоць часта сустракаюцца розныя варыянты перадачы англійскіх назваў у літаратуры, але неяк можна прыйсці да згоды, калі ведаць асаблівасці фанетычных сістэм абедзвюх моў. Але як быць, калі трэба перадаваць беларускія назвы і імёны на англійскай мове?

Як вядома, ёсць мовы, словы з якіх ніяк нельга перадаць праз транслітарацыю, як, напрыклад, арабская ці японская, а ёсць і такія, дзе лепей пайсці праз транслітарацыю (поўную ці частковую). Чаму менавіта так? Справа ў тым, што адным з цяжэйшых этапаў пры карыстанні фанетычнай транскрыпцыяй з'яўляецца не столькі знайсці фанетычныя адпаведнікі беларускім гукам, колькі знайсці ў англійскай мове найлепшы варыянт перадачы таго або іншага гука англійскай мовы на пісьме. Вось, напрыклад, англійскі гук [u:], які адпавядае беларускаму [у], перадаецца ў англійскай мове праз літары: u (musik), ue (blue), ui (nuisance), ou (group), ew (Andrew), eu (rheumatism), oo (room), oe (shoe).

То як нам тады пісаць па-англійску прозвішча Шуба — Shooba, Shuba, Shouba і да т.п.? І што будзе, калі нарэшце англічане вырашаць спрасціць сваю арфаграфію (што малаверагодна, але раптам...)??? То нам тады таксама перарабляць свае пашпарты?

Больш, бясспрэчна, падыходзіць транслітарацыя. Але якая? Існуе некалькі сістэм. У мастацкай літаратуры карыстаюцца адной, у навуковых працах — другой, а ёсць і такое, дзе наогул не зразумееш, якой.

У тых нешматлікіх перакладах твораў беларускіх пісьменнікаў, якія мне ўдалося прачытаць, большая частка прозвішчаў, імёнаў і назваў ідзе праз расійскую мову. Вось, напрыклад, пераклады Янкі Брыля (First Show, Moskow. 1981). Але то й не дзіва, бо кнігу друкавалі ў Маскве. Але ўжо бярэ дзіва і сум, калі чытаеш пераклады, выдадзеныя ў Менску, як, напрыклад, Colours jf the Native Cjuntry, Minsk, 1972. Пішуць Polesye, Ganka, Malinovka, а не Polesse, Hanka, Malinauka! Што там гаварыць пра «раней», калі нават цяпер у кніжках пра Беларусь (Belarus. A New Land of Opportunity, Minsk, 1993) ідуць побач старое Mogilev і новае Belarus; Belarus і Bielaviezha; Skaryna і Skarina; Ihar Gelazowski і Kastus Kalinouski.

Што да лінгвістычных прац ці лінгвістычных даведнікаў, то амаль усе карыстаюцца беларускай лацінкай. У англійскіх слоўніках беларускія геаграфічныя назвы даюцца праз расійскую мову, напрыклад Nieman, Dnieper, і толькі Ян Пятроўскі піша Miensk, Prypiac', Homiel', Slucak. Прозвішчы беларускага паходжання даюцца ў слоўніках праз расійскую (Kibkalo) або польскую мову (Kościuszko).

На сённяшні дзень, на жаль, няма адзінай сістэмы транслітарацыі, і таму адно і тое ж імя, якое прыйшло ў англійскую мову праз розныя сістэмы, можа стаць непазнавальным.

Прыняць брытанскую сістэму для кірылічных алфавітаў? Але яна таксама не зусім дакладная, бо не мае ўсіх беларускіх літар ды не ўлічвае іх фанетычныя асаблівасці і дыстрыбуцыю ў слове. І як вы прачытаеце два прозвішчы — Лузгіна і Лужына (Luzhina, Luzhyna)? Трэба сказаць, што ў брытанскай сістэме таксама ёсць дыякрытычныя знакі, якія адрозніваюць фаналагічныя апазіцыі, напрыклад, [л] і [ль] — [l] і [ĺ].

Усе народы, якія маюць лацінскі алфавіт, пішуць свае імёны на роднай мове, а ўжо англічане хай вымаўляюць іх, як сабе хочуць (гл. Wroclaw, Dachau, Paris, Jassem, Heine, Monet).

**Алена ТАБОЛІЧ,**
**лінгвіст-фанетыст,**
**Менскі дзяржаўны лінгвістычны універсітэт.**

*Філалагічныя загадкі*

# Гэта пачвара?

Рэдакцыя атрымала два адказы на філалагічную загадку пра кадука. Наша сталая чытачка і аўтарка Людміла Леўчанка напісала нам: «Я ўжо двойчы адказвала на філалагічныя загадкі (пра шастака і пра Мару), але, на вялікі жаль, адказы мае былі памылковыя. Ды ўсё ж узрадавалася, калі атрымала «Наша слова» з новай загадкай — паспрабую адказаць, можа на гэты раз пашанцуе».

«Я прагледзела спецыяльную літаратуру, «Статут ВКЛ», «Этнаграфію Беларусі», «Фразеалагічны слоўнік беларускай мовы» І.Я.Лепешава, дзе слова «кадук» тлумачыцца як прастамоўны выклічнік (*няхай будзе так; выказванне згоды* і г.д.), як сінонім (*Бог з табой; ліха з ім; чорт з ім* і г.д.). Лічу, вы дапамаглі крыху сваёй падказкай, што гэтае слова даўней чуваць было і ў судзе. А таму прапаную такі адказ паводле «Слоўніка іншамоўных слоў» А.М.Булыкі: «Кадук (польскае kaduk, лац. caducus). 1. Права на атрыманне спадчыны без завяшчання на Беларусі ў XVI—XVII стагоддзях. 2. Чорт, д'ябал. Гэтае вызначэнне ўзнікае з прыкладаў: *кадук яго ведае, кадук яго бяры*».

У канцы свайго ліста спадарыня Людміла зычыць нам натхнення і поспехаў у працы.

Руслан Равяка з Баранавіч для свайго адказу выкарыстаў матэрыялы кнігі «Заклятыя скарбы» (Менск, 1992): «Пайшоў кадук, відаць, яшчэ ад паганскіх часоў. Гэта была пачвара, якой вельмі баяліся (а мо і паважалі) нашыя продкі. Зараз яго месца займае чорт. Некаторыя апісваюць кадука як звера з вялікай галавой і шырокаю пашчай». Руслан у сваім лісце закрануў нават этычную праблему. Ён згадвае, «што праклляцці амаль заўсёды здзяйсняюцца і экстрасенсы папярэджваюць людзей пра гэта. А таму, калі нашы продкі клялі («Каб цябе кадук») ці проста гаварылі пра кадука, дадавалі: «ня гэтым часам кажучы», «не пра яго кажучы».

Дзякуем нашым чытачам за ўвагу да газеты і за добрыя словы. У наступным нумары надрукуем меркаванне навуковага супрацоўніка Акадэміі навук Беларусі.

З.С.

# Сусветная літаратура ў школе

*Вам, школьнікі!*

X клас

## Францэска ПЕТРАРКА
*(1304—1374)*

**Выдатны італьянскі лірык-гуманіст Францэска Петрарка (Francesco Petrarca) паходзіў з сям'і фларэнтыйскага юрыста, які мусіў пакінуць Фларэнцыю, як і Дантэ Алігʼеры, у 1302 годзе. Месца нараджэння Петраркі — невялічкі гарадок Арэца. З 1312 года ён з бацькамі пераехаў у паўднёвафранцузскі горад Авіньён, дзе наведваў школу, а з 1316 года вывучаў юрыспрудэнцыю — спачатку ў Манпэльe, а пасля ў роднай Італіі, у Балоньі. У 20-я гады Петрарка захапіўся вывучэннем антычнай літаратуры, глыбока ведаў творы Цыцэрона, Вяргілія, Ціта Лівія, Аўгусціна. У 1327 годзе ўпершыню спаткаў прыгожую маладую жанчыну Лауру, чый вобраз стаў галоўным ва ўсёй паэтычнай творчасці Петраркі. Вершы на жыццё і смерць (пасля 1348 года) Лауры, выдадзеныя ў 1373 годзе асобнай «Кнігай песень» («Canzoniere»), упісалі імя іх аўтара ў гісторыю еўрапейскай культуры эпохі Адраджэння. Іх прыгажосць хвалюе і сённяшняга чытача.**

**На беларускай мове асобныя санеты Петраркі вядомыя ў перакладах Ю.Гаўрука, М.Дуброўскага, Л.Баршчэўскага.**


Літаратура:

Ковалева Т.В. Петрарка // Ковалева Т.В., Лапин И.Л., Паньков Н.А. Литература средних веков и Возрождения. — Мн., 1988. С. 95-99.

Хлодовский Р.И. Франческо Петрарка: поэзия гуманизма. — М., 1974.

Wilkins E.N. Life of Petrarch. — Chicago/ London, 1963.


## На жыццё мадонны Лауры

* * *

**Дабраслаўляю дзень той, месяц, год,**
**Часіну і дзівоснае імгненне,**
**Ды край, дзе бачыў вочы, нібы ў сненні, —**
**І, паланёны, шмат спазнаў турбот...**

**Дабраслаўляю горыч тых нягод,**
**Што шле Амур у помслівым памкненні,**
**Ды лук яго, чыя страла сустрэне**
**Мяне — і скончыць свой смяротны лёт.**

**Дабраслаўляю гэты голас мой,**
**Які імя каханай паўтарае**
**Няспынна і з узнёсласцю такой...**

**Дабраслаўляю песні, што стварае**
**Маё натхненне; толькі Ёй адной —**
**І больш нікому — мая ліра іграе.**

* * *

**У задуменні я за крокам крок**
**Па роўнядзі пустэльнай адмяраю:**
**Баюся, што сляды дзесь напаткаю**
**Вачыма — й не гляджу зусім убок.**

**Ад позіркаў, дапытлівых знарок,**
**Ніякай схованкі нідзе не маю,**
**А тое, што знутры агнём палаю —**
**Хоць твар мой і патух — відно здалёк.**

**Здаецца мне: і ўзгоркам, і далінам,**
**І рэчкам, і лясам усё вядома,**
**Што робіцца ў душы цяпер маёй.**

**Хоць бы й шукаў дзічэйшых я сцяжынаў,**
**Любоў ідзе са мною пакрыёма,**
**І я вандрую з таямнічай — ёй.**

* * *

**Каб верыў я, што смерць мяне пазбавіць**
**Ад цяжкіх думак і пакут кахання,**
**Дык сам бы скончыў гэта існаванне;**
**Заўчасныя хаўтуры даў бы справіць.**

**Але баюся: скон мяне паставіць**
**На іншы бок мяжы выпрабавання,**
**Да новых слёз і новага змагання,**
**І крок далей ні ад чаго не збавіць.**

**Страла павінна вылецець, мяркую,**
**Ад цецівы напятай, набрынялай**
**Крывёю іншай. І ў сваёй мальбе**

**Прашу Любоў дапамагчы, ды тую,**
**Што мяне ў бледны колер фарбавала,**
**А больш не хоча клікаць да сябе.**

* * *

**Шаснаццаць год прайшло з пары тае,**
**Калі пакутліва я закахаўся; мала**
**Мне засталося. І цяпер — нібы навала:**
**Душы спакою, як ніколі, нестае.**

**Душа любові слодыч спазнае**
**Ды горыч бед; жыццё цяжарам стала,**
**І смерць малю я, каб раней спаткала**
**Мяне, чым — мной апетую — яе.**

**Хоць сэрца рвецца прэч — на жаль, я тут:**
**І рады, й не хачу адсюль сыходзіць —**
**Так узяла мяне туга мая.**

**І слёзы новыя ў вачах — не цуд,**
**А знак таго, што не магу, выходзіць,**
**Нягледзячы на ўсё, змяніцца я.**

## На смерць мадонны Лауры

* * *

**Цудоўнаю і росквітнай парой,**
**Калі Амурава ўладарыць сіла,**
**Убор зямны яна свой не зназіла —**
**Пакінула штодзённасці людской**

**І без апраткі ў неба над зямлёй**
**Узнеслася й мяне заваражыла...**
**Чаму ж мой дзень апошні не зрабіла**
**Днём першым *там*, убор забраўшы мой?**

**Ах, думак пра яе заўсёдны ўзлёт,**
**Пакліч душу маю ўслед за сабою,**
**Мяне ад гэтых уратуй нягод!**

**Адцягваць небяспечна адыход:**
**Я з радасцю вялікаю такою**
**Тут, на зямлі, не жыў бы трэці год.**

* * *

**Як салавей цяпер салодка плача,**
**Ўсіх птахаў славячы з дзівоснай сілай:**
**Тугу сваю выказвае, няйначай,**
**Сярод вясковай цішыні па мілай —**

**І ноч усю яго імпэт юначы**
**Супрацьстаіць фатальнасці панылай...**
**Ввдзе мяне спазнаць мой лёс бядачы:**
**Карае Смерць нават багінь магілай.**

**Як мроі нас ашукваюць ды памяць!**
**Не верыў я, каб вочы-сонцы тыя**
**Магло штосьць калі-небудзь затуманіць.**

**«Цяпер зямля засыпала іх», — раняць**
**Мяне няўмольна думкі ўсе такія;**
**Жыццё ж вабноты нам заўсёды маніць.**

* * *

**Смерць, ты навечна сонца патушыла:**
**Свет пазмрачнеў, знявераны ў каханні,**
**Змарнела прыгажосць уся дазвання —**
**Мяне ты абакрала й знелюбіла.**

**Ты годнасць знішчыла маю, спаліла —**
**Адзін я, ў скрусе, хоць наканаванне**
**Усім такое ж: плодным больш не стане**
**Зямны палетак. Дзе былая сіла?**

**Зямля, вада й нябёсы род людскі**
**Аплачуць, што самотны, як карона**
**Без дыяментаў ці як луг без кветак.**

**Быў да яе свет абыякавы такі,**
**Я ж прыгажосцю Донны быў натхнёны —**
**Ды небу сам яе аддаў вось гэтак.**

* * *

**Пагляд, што называў я агнявым,**
**Далоні, ножкі, пекны твар яе**
**Мяне забыцца змусілі й мае**
**Звярнулі думкі ў іншы бок зусім.**

**І локаны, з адценнем залатым,**
**І ўсмешкі бляск, анёльскае тае, —**
**Усё, што райскі кшталт зямлі дае,**
**Тлом сталася, халодным, нежывым.**

**І ўсё-ткі я жыву: у засмучэнні**
**Без маяка ўлюбёнага вяслую**
**У лодцы, ў бурных хваляў атачэнні,**

**А дух мой упадае, і, мяркую,**
**Кахання спеву хутка закачэнне:**
**Ўжо ноткі смутку ў гранні ліры чую.**

***Пераклад з італьянскай Лявона БАРШЧЭЎСКАГА.***

*Рада перакладчыкаў*

# З усімі літаратурамі свету мы павінны ўсталяваць кантакты

***«Наша слова» ад самага пачатку свайго існавання актыўна супрацоўнічае з секцыяй перакладу і літаратурных узаемасувязей Саюза пісьменнікаў Беларусі. У мінулым годзе пры нашым выданні была створана Рада перакладчыкаў. А што да плёну супрацоўніцтва, чытачы нашы, бадай, не абмінулі ўвагаю публікацыі ў адпаведных рубрыках — дзе змяшчаліся шэдэўры сусветнай паэзіі, дэтэктыўная проза, водгукі на беларускае слова за мяжою, гумар іншых народаў...***

***Працягваючы і паглыбляючы знаёмства з перакладчыцкай справай на Беларусі, мы запрасілі да размовы Івана Чароту, які з'яўляецца старшынёй бюро секцыі перакладу і літаратурных узаемасувязей СП і нядаўна ўдзельнічаў у XX Міжнароднай сустрэчы перакладчыкаў у Бялградзе.***

**— Як вы ацэньваеце стан беларускага перакладу паводле цяперашніх умоў, магчымасцей, перспектыў?**

— Калі сказаць проста, што з перакладам адбываецца нядобрае, гэта будзе лакіроўкай сапраўднага стану рэчаў. Магу ўдакладніць, што горш не было. Але, відавочна, перспектывы яшчэ змрачнейшыя.

**— Магчыма, ёсць нейкі сэнс у сцвярджэннях пра неабходнасць пераключацца на рыначныя адносіны і пра няздольнасць альбо нежаданне вашых калег ісці насустрач патрабаванням часу?**

— Такія меркаванні распаўсюджваюцца шырока. Ды за імі ці то наіўнасць, ці то свядомае шкодніцтва. Паспрабую канкрэтызаваць, дзе-што.

Рынак духоўных каштоўнасцей — святатацтва, у горшым сэнсе варварства, дзікунства, магчымае толькі ў тых, хто наогул адмаўляе існаванне духоўнасці, культуры, а ў рэшце рэшт і вышэйшую існасць чалавека, параўнальна з ніжэйшымі стварэннямі ці з механізмамі, якія патрабуюць сілкавання ды падмазвання.

Уласна, калі нацыя мае ў актыўным духоўным ужытку поўны фонд сусветных вартасцей, назапасіўшы, да таго ж, скажам, па 5-10 перакладаў «Іліяды», «Боскай камедыі», «Караля Ліра» і ўсіх астатніх шэдэўраў, яна можа не спяшацца з падтрымкаю выдання перакладу 11-га... Але ж у нас нават Святое Пісанне дагэтуль цалкам не перакладзена! Між тым, асваенне іншанацыянальных скарбаў — пры той культурнай палітыцы, на якую зарыентавана цяперашняя ўлада — можа скончыцца, ледзь-ледзь распачаўшыся.

І яшчэ адзін момант, на мой погляд, ключавы. Дэкларацыі наконт суверэннасці падразумяваюць самастойнасць усіх дачыненняў, узаемадзеянняў. Культурныя, літаратурныя сувязі, адпаведна, мусяць актывізавацца. А ў нас усё наадварот. Яны, без перабольшвання, дарэшты абрываюцца. Канкрэтна перакладчыкі, неабыякавыя да лёсу нацыянальнай культуры, сёння працуюць «на карысць сваіх стратаў»: не маюць належных магчымасцей выдаваць кнігі і друкавацца ў перыядычных выданнях, не атрымліваюць адпаведнай высілкам платы, не могуць выпісваць замежнай літаратуры і прэсы і г.д. Ды гэта і «на карысць стратаў» нацыі.

Вяртаючыся да таго, што называюць рынкам, не лішне ўдакладніць: папраўдзе, у нас — базар, прычым той, які ў цывілізаваным свеце лічыцца барахольным, блышыным, вашывым. Для перакладчыкаў на ім лёгка знайсці сваё месца і немалыя барышы, пераклумачваючы ўсялякае фанта-крымаэрота-перверзіўнае лухтапісанне. Ды зноў-такі, ці на карысць гэта нацыі, дзяржаве, калі яна не запраграмавана на самазнішчэнне?

**— Усё так змрочна?**

— Баюся, што намнога змрачней, як я паспеў акрэсліць. Хоць гэта не азначае, што трэба ўпадаць у адчай. Трэба працаваць. Шукаць падтрымку.

Дарэчы, не магу не паўтарыць таго, што выказаў у сваёй справаздачы на секцыі крытыкі СП Беларусі: «Наша слова» з усіх перыядычных выданняў рэспублікі найбольш робіць дзеля ўмацавання беларускага перакладу, супрацоўнічаючы ў розных формах з прадстаўнікамі ўсіх накірункаў і пакаленняў нашага «цэха».

З выдавецтваў, дзякуй Богу, пра гэта дбае яшчэ «Мастацкая літаратура».

**— Тым не меней ёсць нейкія выхады ў Еўропу, у свет? Вось Вы бралі ўдзел у Міжнароднай канферэнцыі перакладчыкаў.**

— Гэта хутчэй проста шчаслівы выпадак, ацэньваючы з пункту гледжання суб'ектыўнага. Аб'ектыўна ж я з'ездзіў на XX Бялградскую міжнародную сустрэчу перакладчыкаў дзякуючы Беларускаму Фонду Сораса. Ні родны наш Саюз пісьменнікаў, ні іншыя ўстановы і арганізацыі, з якімі я супрацоўнічаю, грошай на гэта не маюць. Таму ўдзячнасць Фонду Сораса асаблівая.

**— А што гэта за мерапрыемства?**

— Асацыяцыя перакладчыкаў Сербіі традыцыйна праводзіць міжнародныя сустрэчы (гэта, як я ўжо казаў, XX-я), на якія запрашаюцца тэарэтыкі, крытыкі і практыкі перакладу з усяго свету дзеля абмеркавання і агульных, і надзённых праблем. Загадзя вызначаецца тэматыка, рассылаюцца запрашэнні, ну, як звычайна. Незвычайна, падкрэслю, тое, што гэтае мерапрыемства праводзіцца ў Сербіі, нават нягледзячы на распад былой федэрацыі, на блакаду, якая не знята, на цяжкія палітычныя і эканамічныя ўмовы. Сербам зараз шмат чаго бракуе. Не бракуе толькі павагі да сябе і ўвагі да культуры.

Адпаведна, і гэтым разам у сустрэчы бралі ўдзел прадстаўнікі Балгарыі і Бельгіі, Ізраіля і Румыніі, Францыі і Расіі, Швецыі і Японіі. Змястоўнай і цікавай была тэма: «Нацыянальнае і інтэрнацыянальнае ў перакладзе». Натуральна, у кожнай краіны свае асаблівасці, свае праблемы. Я, выступаючы на пленарным пасяджэнні, прыцягнуў увагу вось да якога аспекту: «Роля перакладу ў развіцці менш прызнаных культур». Дарэчы, гэта непасрэдна звязана з тым, пра што мы з Вамі гаварылі напачатку. Не дзеля пахвальбы адзначу, даклад быў успрыняты з вялікай цікавасцю. Вось каб на гэта (ролю перакладу ў нашай, непрызнанай яшчэ культуры) звярнула ўвагу беларуская ўлада ва ўсіх адпаведных структурах і зацікавілася...

**— А што б Вы хацелі вылучыць найперш?**

— Што найперш, не ведаю, бо нявырашаных праблем так многа... Але пра адну справу мы, перакладчыкі, вядзём гаворку не толькі ў сваім коле многія гады. Уявіце сабе, што не было і не прадугледжваецца ніякіх заахвочванняў у галіне перакладу. Як вядома, і дзяржаўныя, і літаратурныя (Саюза пісьменнікаў) прэміі ў значнай колькасці прысуджаюцца паэтам, празаікам... А перакладчыкам, як мой меншы сын кажа, ад шыша прывітанне. Мы, тутэйшыя, звыкліся. Але ж ёсць тыя, хто перакладае нашу літаратуру за мяжой. І проста ганьба, калі яны атрымліваюць за сваю самаахвярную, абсалютна няўдзячную працу, гэткае самае прывітанне-ўшанаванне. Дзяржавы, якія маюць гонар, нават спецыяльныя фонды падтрымкі папулярызатарам іх культур ствараюць, з адпаведнымі стыпендыямі, запрашэннямі, забеспячэннем літаратурай, дапаможнікамі і г.д.

А вось у Сербіі ёсць вядомы славіст прафесар Сібінавіч, які пераклаў цэлую анталогію беларускай паэзіі, даследуе нашу літаратуру як навуковец, прыкладае ўсе намаганні, каб стварыць там нейкую структуру, якая б займалася належным чынам беларусістыкай... І з нашага боку ніхто пальцам не варухне. Здаровым розумам такое можна прыняць?

**— Выходзіць, маюцца-такі людзі, якім неабыякавая беларуская культура?**

— На шчасце, так. У многіх краінах. Скажам, у Сербіі, пра якую мы гаворым, з ахвотаю друкавалі б аналітычныя матэрыялы, прысвечаныя нашай культуры, літаратуры. Я атрымліваў прапановы ад канкрэтных выданняў. І, між іншым, неаднаразова публікаваў. Шкада толькі, сувязі ўскладняюцца блакадай, нават бандэролі з тэкстамі прападаюць у дарозе. На жаль, праз гэта не склалася панарама беларускай паэзіі маладзейшага пакалення, якую я рыхтаваў для штомесячніка «Збіля» («Рэальнасць»).

**— Натуральна, працэс павінен быць двухбаковы?**

— Пэўна. Але мы не сядзім склаўшы рукі. Уласна, Ваша выданне спаквала надрукавала цэлую анталогію сербскага сатырычнага афарызму. І там гэта не прайшло незаўважаным. Гэтаксама як і выданне твораў І.Андрыча «Мастацкай літаратурай» у серыі «Скарбы сусветнай літаратуры», анталогіі сербскай паэзіі.

**— Значыць, перспектывы ёсць?**

— З усімі краінамі свету мы павінны ўсталяваць кантакты. А ў выпадках, калі яны ўжо неяк запачаткаваліся, неабходна прыкласці ўсе намаганні, каб не прапалі. Гэта адзіна разумная перспектыва. І я веру, што ў нас хопіць розуму (дый інстынкту самазахавання) не трымацца.

**Распытваў В.ШНІП.**

